

Выступленне танцавальнай групы Беларускага народнага хору на фестывалі ў Варшаве.

# Свята міру і дружбы

У гэтыя цёплыя жнівеньскія дні Варшава расквечана, як вясновы сад. Яе вуліцы і плошчы, стадыёны і спартыўныя пляцоўкі, тэатры, кінотэатры, цыркі і канцэртныя залы запоўнены моладдзю. Старажытная Варшава нібы памаладзела. Нездарма яе называюць горадам юнацтва. Ад дома да дома праз шырокія магістралі працягнуты каляровыя палотнішчы. Нібы шматкаляровая вясёлка, пераліваюцца ў сонечных праменнях нацыянальныя флагі розных краін. На многіх мовах свету напісаны словы: «Дабро пажалаваць, юныя сябры, пасланцы міру і дружбы народаў!» Прыгожы ўбор, у які апранулася Варшава ў дзень адкрыцця фестывалю, яна не скідала і да апошніх яго дзён.

Мы перабіраем у памяці шматлікія карціны бачанага і чутага, гартаем старонкі блакнотаў і прыходзім да вываду: цяжка пісаць пра фестываль. Нельга расказаць у кароткім артыкуле для часопіса пра ўсе тыя падзеі і ўражанні, якія накоплены на працягу двух тыдняў. На фестывалі прысутнічала 30 тысяч юнакоў і дзяўчат больш чым са 110 краін усіх кантынентаў. Яны правялі тут сотні самых разнастайных мерапрыемстваў: сустрэч, гутарак, канцэртаў, спартыўных выступленняў — пра ўсё гэта не раскажаш.

Але зразумела адно, і гэта хочацца асабліва падкрэсліць: фестываль з'явіўся новай дэманстрацыяй гарачага імкнення моладзі ўсяго зямнога шара да міру, дружбы, адзінства, да барацьбы за сваё шчасце. На ўсіх мовах свету прагучалі ў Варшаве словы, якія выражаюць волю маладых сэрцаў да барацьбы за светлую будучыню.

Нельга забыць хвалюючых карцін, якія адбыліся ў першы дзень фестывалю. Чым больш набліжаўся час адкрыцця, тым больш многалюдным станавіўся цэнтр горада — плошча імя Сталіна. Адсюль пачалося грандыёзнае шэсце моладзі да месца адкрыцця фестывалю — на стадыён імя Дзесяцігоддзя. Калоны праходзяць праз мост на правы бераг Віслы і ўліваюцца ў расчыненыя вароты стадыёна.

На цэнтральных трыбунах — першы сакратар ЦК Польскай Аб'яднанай рабочай партыі Балеслаў Берут, старшыня Дзяржаўнага Совета Аляксандр Завадскі, старшыня Совета Міністраў Юзэф Цыранкевіч, маршал Польшчы Канстанцін Ракасоўскі і другія кіруючыя дзеячы польскай дзяржавы, Надзвычайны і Поўнамоцны пасол СССР у Польшчы П. К. Панамарэнка. Яны былі ганаровымі гасцямі на многіх мерапрыемствах фестывалю.

Прызыўна гучаць фанфары. Перад трыбунамі праходзіць першая калона. Юнакі і дзяўчаты нясуць велізарную эмблему фестывалю, абвітую лентамі. За імі ў яркіх нацыянальных уборах ідуць прадстаўнікі народаў, што насяляюць Афрыку, дэлегаты Албаніі, Аўстраліі, Поўднёвай Амерыкі. Доўга не змаўкаюць апладысменты ў чэсць моладзі вялікага Кітая, гераічнай Карэі, сонечнага В'етнама. Упершыню праходзяць пад флагам фестывалю прадстаўнікі маладзёжных арганізацый Іспаніі.

Але вось над трыбунамі пракатваецца магутная хваля авацый. Гэта выйшлі на стадыён пасланцы нашай Радзімы. Загарэлыя юнакі і дзяўчаты нясуць дзяржаўны герб краіны. Горда рэюць над калонамі



Совецкая дэлегацыя ў дзень адкрыцця фестывалю.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 9(30).

Верасень.

1955.



Група моладзі — удзельнікаў фестывалю.

флагі ўсіх шаснаццаці саюзных рэспублік. Калі савецкая дэлегацыя параўнялася з цэнтральнымі трыбунамі, насустрач ёй выйшлі маладыя амерыканцы, якія прайшлі праз стадыён раней. Рукі прадстаўнікоў моладзі двух вялікіх дзяржаў скрыжаваліся ў сардэчным сяброўскім поціску. Гэта былі хвалюючыя, незабыўныя хвіліны: два дзяржаўныя флагі — савецкі і амерыканскі — доўга плылі над калонамі побач, сімвалізуючы шчырыя сімпатыі, якія ўзаемна адчувае моладзь абодвух краін. На розных мовах раздаюцца воклічы ў чэсць Савецкага Саюза.

Старшыня Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі Бруно Берніні аб'яўляе фестываль адкрытым. У неба ўзлятаюць тысячы галубоў. Прысутныя скандыруюць: «Мір і дружба», «Мір і дружба». На стадыён прыбывае міжнародная эстафета, якая прайшла праз сотні гарадоў і тысячы сёл розных краін. На мачту ўзнімаецца белае палотнішча з эмблемай фестывалю. Усе ўстаюць і на розных мовах спяваюць Гімн дэмакратычнай моладзі.

Так пачаўся фестываль. А на другі дзень стадыён зноў быў перапоўнены. Трыбуны яго нагадвалі схілы велізарнага ўзгорка, пакрытага яркімі кветкамі. Ва ўрачыстай абстаноўцы адкрыліся Другія сусветныя спартыўныя гульні моладзі. У іх удзельнічала каля чатырох тысяч спартсменаў. Мужчыны спаборнічалі па 23, жанчыны — па 13 відах спорту. Спаборніцтвы адбываліся адначасова на 14 стадыёнах і спартыўных пляцоўках Варшавы.

З раніцы другога дня пачаліся сустрэчы дружбы дэлегацый розных краін. У госці да маладых шахцёраў і металургаў Сілезіі прыехала група савецкай моладзі. Сардэчна, як сваіх лепшых сяброў, сустрэлі іх польскія юнакі і дзяўчаты. «У вас мы вучымся жыць і працаваць, — сказаў ад імя гаспадароў Анджэй Петшак. — Варшаўскія сустрэчы яшчэ больш умацуюць нашу дружбу».

Цэнтральнай падзеяй трэцяга дня было адкрыццё выставак аб маладзёжным руху, якія занялі некалькі прасторных залаў Палаца культуры і навукі. У адной з залаў мы бачылі цікавую карту свету. Значкамі на ёй азначаны краіны, моладзь якіх уступіла ў рады федэрацыі. Мы налічылі 97 значкоў — 97 краін. І гэта вельмі паказальна. Яшчэ 10 год назад федэрацыя аб'ядноўвала толькі 30 мільёнаў юнакоў і дзяўчат, цяпер-жа ў ёй 85 мільёнаў чалавек.

Асабліва многалюдна ў зале Савецкага Саюза. Над уваходам у яе напісаны словы: «Усім шчасцем свайго жыцця савецкая моладзь абавязана вялікай Камуністычнай партыі». Падоўгу не адыходзілі маладыя негры, арабы, дэлегаты краін Еўропы, Амерыкі і Азіі ад карцін і фатаграфій, якія расказваюць аб працы, вучобе і адпачынку савецкай моладзі.

Тым часам прадаўжаліся сустрэчы дружбы. Да савецкай дэлегацыі ў госці прыехалі французы. Моладзь абодвух краін хутка знайшла агульную мову. Госці і гаспадары абменьваюцца значкамі, аўтографамі, фестывальнымі касынкамі. Савецкія юнакі і дзяўчаты акружаюць слаўную дачку французскага народа Раймонду Дзьен. Завязваюцца шчырыя гутаркі аб жыцці і барацьбе за мір.

Усім удзельнікам фестывалю надоўга запомняцца яшчэ дзве падзеі. Першая — гэта закладка Алеі Дружбы ў Цэнтральным парку культуры і адпачынку. Сярод кучаравых клёнаў і таполяў сабраліся ў нацыянальных уборах дзеці розных народаў. Мы бачым польскіх гуралёў — жыхароў гор — у прыгожа расшытых куртках і азербайджанскіх дзяўчат у яркіх суконках, юнакоў з далёкай Афрыкі і румынскіх хлопцаў у высокіх шапках. Усе яны слухаюць прамову свайго кітайскага сябра Чэн Лі-ена.

— Алея Дружбы, якую пасланцы больш ста краін ствараюць у гераічным горадзе, з'явіцца сімвалам міру на зямлі, — гаворыць ён ад імя Міжнароднага камітэта фестывалю. — Як гэтыя маладыя дрэўцы, будзе расці, умацоўвацца і набірацца сіл дружба моладзі ўсяго свету.

Юнакі і дзяўчаты беражліва бяруць стройныя срабрыстыя ёлкі, якія напярэдадні падвезлі сюды варшавяне. У тым месцы, дзе будучую Алею Дружбы перасякае галоўная алея парка, саджаюць дрэўцы пасланцы нашай Радзімы. Вось ужо некалькі ёлак пасаджана. Каля іх назаўсёды замацоўваецца металічны флаг Савецкага Саюза.

Уздоўж Алеі паяўляюцца рады флажкоў — англійскі, кітайскі, індыйскі, нарвежскі, егіпецкі і іншыя. Іх пакідае тут моладзь, згуртаваная адзінай воляй да міру.

Алея пасаджана. Пасланцоў міру вітае старшыня сталічнай Рады народовай Ежы Альбрэхт. З каменнай глыбы спадае пакрывала, і ўсе чытаюць высечаныя на камені словы: «Алея Дружбы. Дрэвы на гэтай Алеі саджала моладзь усяго свету, якая ўдзельнічала ў V Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў за мір і дружбу».

А праз некалькі дзён новая падзея прыкавала да сябе ўвагу ўдзельнікаў фестывалю. На адной з ціхіх зялёных вуліц у раёне Макатова ўзнімаюцца ўверх апранутыя ў рыштаванні сцены будучай школы. У гэты дзень будаўнічая пляцоўка выглядала незвычайна. З усіх канцоў горада сюды з'ехаліся юнакі і дзяўчаты розных краін. Яны прышлі, каб разам са сваімі польскімі сябрамі прыняць удзел у будаўніцтве школы. Юнакі і дзяўчаты апранаюць сінія спецоўкі і становяцца членамі адной многанацыянальнай будаўнічай брыгады.

Спрытна працуе англійскі юнак Сэм Ломас. Побач кладзе цэглу каменшчык з Пекіна Чжан Бе-фа. Падбадзёрваючы адзін аднаго, працуюць свердлаўчане Юрый Клюсаў і Анатоль Валільчанка. Маладыя немцы, пераняўшы вопыт савецкіх будаўнікоў, працуюць тройкай. Ля ўваходу ў школу ўстанаўліваецца памятная табліца. Будучая школа атрымоўвае імя Пятага фестывалю.

Савецкая моладзь усе дні фестывалю знаходзілася ў цэнтры ўвагі. Рускіх, украінцаў, беларусаў, грузін — прадстаўнікоў усіх народаў нашай краіны, дзе-б яны ні з'яўляліся, акружалі цесным кальцом, іх распытвалі аб жыцці ў савецкай краіне. Усеагульнае захапленне выклікалі высокі мастацкі талент і выдатнае спартыўнае майстэрства савецкай моладзі. Усяго ў міжнародных мастацкіх конкурсах удзельнічала 192 чалавекі з 35 краін. Пераможцам уручана 248 медаляў. Савецкая дэлегацыя прадставіла 31 нумар з 92-х і атрымала 22 першых прэміі, 8 другіх і адну трэцюю. Удзельнікі міжнароднага конкурса савецкія прадстаўнікі атрымалі 35 залатых медаляў, 9 срэбраных і 1 бронзавую.

Пройдуць гады. Высока ўзнімуцца стройныя ёлкі на Алеі Дружбы. Шчаслівая дзетвара запоўніць светлыя пакоі школы на зялёнай варшаўскай вуліцы. Многае зменіцца ў жыцці юнакоў і дзяўчат — удзельнікаў Пятага фестывалю. Але ніколі не забудуць яны цёплых варшаўскіх сустрэч. Пасланцы розных краін праз усё сваё жыццё пранясуць вернасць высокародным ідэям міру і дружбы.

**А. ЛУКАВЕЦ,**
**В. НАВАСКОЛЬЦАЎ.**

Варшава, жнівень, 1955 г.

Французскі студэнт з горада Ліона раздае аўтографы.





Весела кружыліся ў танцы маладыя чэхі з варшавянкамі.

Справы нашы, камсамольскія

# Камсамольскі білет

Камсамольскі білет! — колькі ў гэтых двух словах вялікага, хвалюючага сэнсу. Той, хто носіць ля сэрца гэтую невялікую кніжачку з цісненымі на вокладцы словамі: «Всесоюзный Ленинский Коммунистический Союз Молодежи», шчаслівейшы з маладых людзей нашай вялікай Радзімы, бо ён — перадавы барацьбіт за шчасце народа, салдат вялікай арміі будаўнікоў камунізма. Яму выпала шчасце ісці ў авангардзе нашай працавітай, геаічнай савецкай моладзі. На заводах і фабрыках, на калгасных палях, у навуковых лабараторыях — усюды яна, імклівая, дапытлівая і разумная, працуе, дамагаецца творчых поспехаў. Дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат з агністымі камсамольскімі значкамі на грудзях паехалі ў стэпы Казахстана, Алтая, Сібіры. Яны вырасцілі і атрымалі ў леташнім годзе на мільёнах гектараў зямель, сіла якіх драмала стагоддзямі, багаты ўраджай. У сёлетнім годзе падняты новыя мільёны гектараў, на якіх вырасла цудоўная залатая пшаніца.

Камсамольскі білет — гэта выражэнне чэсці і сумлення маладога чалавека нашай эпохі. Берагчы яго ў чыстаце — значыць апраўдваць высокую годнасць члена Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі.

Зараз камсамол нашай краіны рыхтуецца да вялікай і адказнай падзеі — абмену камсамольскіх білетаў. Задача заключаецца ў тым, каб упарадкаваць як належыць камсамольскую гаспадарку. А праўду сказаць, да апошняга часу ў шмат якіх пярвічных камсамольскіх арганізацыях і нават райкомах камсамола далёка не прыведзены ў парадак камсамольскія справы. Вось, напрыклад, у Радашковіцкім райкоме ЛКСМБ да нядаўняга часу не ведалі, куды дзеліся 79 камсамольцаў. У спісах гэтак і значылася: «Невядома куды выбылі». Здараецца і так, што камсамолец даўно ўжо выбыў з арганізацыі і нават з раёна, а ўліковая картка яго ўсё ляжыць у райкоме камсамола. Камсамолка Глафіра Харытон чатыры гады правучылася ў Мінскім інстытуце замежных моваў, а яе ўліковая картка тым часам ляжала ў Радашковіцкім райкоме камсамола.

Нажаль, факты неўпарадкаванасці камсамольскай гаспадаркі нярэдкія. Нават у Фрунзенскім райкоме камсамола горада Мінска да нядаўняга часу захоўвалася больш, як поўтысячы ўліковых картак камсамольцаў, якія даўно выбылі з Мінска. Асаблівая неўпарадкаванасць гаспадаркі характэрна для камсамольскіх арганізацый навучальных устаноў. Камітэт камсамола Беларускага дзяржаўнага універсітэта не так даўно выявіў, што ў шмат якіх камсамольцаў, асабліва з першых курсаў, няма нават уліковых картак. Давялося спехам запаўняць на іх новыя карткі.

Усё гэта сведчыць аб тым, што ў шмат якіх пярвічных камсамольскіх арганізацыях, у райкомах камсамола адсутнічае цвёрдая дысцыпліна, што сёй-той з камсамольцаў не даражыць сваім высокім званнем.

Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі моцны сваёй дысцыплінаванасцю, маналітнасцю радоў. Як верны памочнік вялікай Камуністычнай партыі, ён павінен у чыстаце трымаць сваю годнасць, аб'ядноўваючы і згуртоўваючы маладых барацьбітоў за камуністычную будучыню. Толькі той камсамолец апраўдвае высокае званне, які з гонарам нясе яго, які ўсюды — у працы, у вучобе, у быту—з'яўляецца прыкладам, узорам для пераймання.

# Юныя ўмельцы

Г. ШЫЛОВІЧ

Альберт Туміловіч аглядаў на школьнай выстаўцы экспанаты членаў школьнага гуртка «Умелыя рукі».

— Падумаеш, мудронасць якая, — з пагардай заўважыў ён, — вырэзваць шашкі!.. Узяў чурбачок, адпілаваў роўныя качолікі, пафарбаваў у два колеры — вось табе і шашкі.

Косця Шыцікаў, які стаяў з ім поплеч, недаверліва паглядзеў на прыяцеля. «Няўжо і сапраўды,— падумаў ён,—Альберт лічыць такой простай справай вырэзваць з бярозы шашкі. Ці ён пахваліўся?» Косця добра ведаў, колькі хлопцы папрацавалі, каб зрабіць гэтыя шашкі. А колькі няўдач было, пакуль іх работы трапілі на школьную выстаўку! І ён з падкрэсленай цікавасцю аглядваў шашкі, шахматы, розныя металічныя рэчы, выточаныя на такарным станку, наглядныя дапаможнікі па фізіцы і гісторыі. Сам ён толькі нядаўна запісаўся ў гурток «Умелыя рукі» і спадзяваўся, што неўзабаве і яго работа, няхай хоць маленькая, трапіць на выстаўку.

А Туміловіч стаяў на сваім:

— Нічога асаблівага. Каб хто дзеючую мадэль электраматора ці лакамабіля зрабіў — от гэта было-б дзіва!

— Было-б, вядома, яшчэ лепш, — сказала старшая піянерважатая Марыя Цярошына. — Вось ты і паспрабуй зрабіць такую рэч. Адно не забывай — кожная справа, і маленькая, і вялікая, толькі майстра любіць.

— Ну і што-ж? Захачу, дык і зраблю, — выпаліў Альберт і спахапіўся: «Ці не залішне я хвалюся?» Але было позна. Насмешлівы косцяў позірк сведчыў аб тым, што той асуджае хвальбу таварыша. Хто-хто, а Косця добра ведаў, на што здатны Альберт. Ён нават малатка ў руках ніколі не трымаў. І Косця гэтак і сказаў таварышу, калі яны вярталіся дадому:

— Хвалько ты, Альберт!

— Я?

— А хто-ж, вядома, ты.

Вельмі ўжо балюча ўцяў Альберта справядлівы косцяў дакор. І ён вырашыў, не адкладаючы надоўга, зрабіць такую рэч, каб усе вучні школы сказалі: «Вось дык Альберт! А мы і не ведалі, на што ён здатны».

У пуні, сярод старызны, ён знайшоў прызапашаныя ім калісьці алюмініевыя трубкі, бляшаную манерку, шасцяронкі ад старога насценнага гадзінніка, нікеляваную металічную пласцінку з прышрубаванымі да яе карбалітавымі выступамі. «Металічная пласцінка, — разважаў ён, — будзе добрай асновай для мадэлі. Вось толькі трэба паадкручваць ад яе карбалітавыя выступы. Падчаплю нажом і гатова!»

Сапраўды-ж зрабіць гэта аказалася не так проста. Лязо нажа ён сяк-так увагнаў пад карбалітавы выступ. А калі крыху націснуў на дзяржанку, — нож хруснуў і зламаўся. А тут, як на злосць, у пакой увайшоў бацька.

— Што гэта ты сёння ўсё майструеш? Пакажы мне.

Бацька ўважлівым позіркам акінуў металічную пласцінку, зламаны нож і паківаў галавой.

— Не нажом, а зубілам трэба было адбіваць. І працей, і лягчэй. Навошта гэта табе спатрэбілася?

— На дзеючую мадэль.

— На якую мадэль?

— Пакуль яшчэ не ведаю.

— Дрэнна, хлопча, што не ведаеш. Не з таго, відаць, канца пачынаеш. А трэба добра ведаць, што і для чаго ты збіраешся рабіць. З макета, з плана — вось з чаго трэба пачынаць.

Позна ў той вечар сядзелі сын з бацькам. Пад канец бацька як-бы ненарокам спытаў:

— Чаму-б вам не пабыць на заводзе ды не паглядзець, як працуюць слесары, электразваршчыкі, як адзін чалавек кіруе механічнымі нажніцамі, якія рэжуць тоўстыя жалезныя пранты гэтак-жа лёгка, як ты паперу?

На другі дзень Альберт прышоў задоўга да пачатку ўрокаў і адразу-ж пайшоў у майстэрню. Тут ужо было многа знаёмых хлопчыкаў. На варштаце працавалі шасцікласнікі Лёня Сарочанка і Паўлік Лушчыкаў. Ім дапамагала Валя Ягела. Ля такарнага станка група вучняў уважліва слухала тлумачэнні кіраўніка гуртка «Умелыя рукі» Мікіты Абрамавіча Носарава. Сярод іх Альберт убачыў Косцю. Той моўчкі падзываў яго да сябе. Альберт падышоў, прывітаўся з усімі і нясмела звярнуўся да Мікіты Абрамавіча:

— А ці можна мне займацца ў гуртку?

— Вядома, можна. А ты ўмееш што-небудзь майстраваць?

Альберт пацiснуў плячыма. Усе моўчкі глядзелі на яго.

— А слясарным інструментам карыстацца можаш? А ну, паспрабуй, — працягваў Мікіта Абрамавіч, падаючы яму напільнік. — Вось табе кавалак жалеза, яго трэба запіліць. Хадзем да ціскоў.

Так Альберт пачаў наведваць школьны гурток «Умелыя рукі». Разам з Косцям вучыліся рэзаць жалеза, свідраваць яго, абточваць, чытаць чарцяжы. Шмат што было вельмі складаным. Не так проста аказалася адразу навучыцца паяць ці надаваць металу тую форму, якая патрабавалася паводле чарцяжа. Цяпер Альберт зусім інакш глядзеў на рэчы, няхай нават самыя простыя, зробленыя юнымі ўмельцамі школы.

І вось неяк аднаго разу Мікіта Абрамавіч сказаў:

— Хлопцы, нас запрашаюць да сябе камсамольцы завода. Яны згадзіліся адзін раз у тыдзень вучыць на сваіх станках тых, хто жадае, такарнай і слясарнай справе. Мы вырашылі арганізаваць з вучняў школы шэсць груп. На завод пашлем, вядома, лепшых.

І вось вучні спяшаюцца да прахадной будкі Магілёўскага лакамабільнага завода. Як самых добрых, блізкіх сяброў, сустракалі рабочыя завода вучняў сёмай сярэдняй школы. А тыя, спачатку крыху ашаломленыя шумам станкоў, асляпляльнымі ўспышкамі электразваркі, шпаркім рухам кран-бэлек, стаялі шчыльнай купкай, стараючыся ўсё заўважыць, усё зразумець... Ды хіба адразу разбярэшся ва ўсім?

Нішто не магло ўтаіцца ад дапытлівага позірку юнакоў. Яны заўважалі, наколькі шпаркія і дакладныя рухі рабочых, які выгляд мае корпус яшчэ не скончанага лакамабіля, як ён амаль відавочна абрастае новымі дэталямі і як рушыць аж у самы канец цэха па канвееру. І калі вучняў пачалі размяркоўваць па цэхах, Альберт папрасіўся ў мадэльны, дзе працаваў яго бацька. Разам з ім пайшоў і Косця.

У мадэльным цэху, дзе пахла сасновымі стружкамі, менш было такарных станкоў, чым у інструментальным. Ля самага акна Альберт убачыў бацьку. Ён схіліўся над чарцяжом. На сцяне, ля яго рабочага месца, вісеў плакат, які здаўся сыну самым прыгожым з усіх плакатаў, якія ён бачыў на заводзе. На ім было напісана: «Тут працуе лепшы токар цэха тав. Туміловіч, які выканаў дзесяць гадавых норм за пяць год».

Сэрца Альберта напоўнілася гонарам. Хлопчыку прыгадаліся гутаркі з піонерважатай, з Косцям, бацькам. «Праўду кажуць людзі, — справа майстра любіць, — думаў ён, — я абавязкова пастараюся стаць такім майстрам, як тата».

Косця-ж, сустрэўшыся позіркам з Альбертам, кіўнуў галавой. Яны ўжо скончылі чарцёж мадэлі лакамабіля і наважылі, як-бы там ні было, зрабіць яе да наступнай выстаўкі.



# Машыны трымаюць экзамен



На 21-м кілометры ля Магілёўскай шашы раскінуліся светлыя будынкі з вялікімі вокнамі і прыгожыя, чыстыя, яшчэ не абжытыя домікі з яркачырвонымі дахамі. Уздоўж асфальтаванай вуліцы за прыгожымі парканамі зелянеюць нядаўна пасаджаныя дрэўцы. Гэта і ёсць Заходняя машынавыпрабавальная станцыя. Тут працуюць і жывуць навуковыя супрацоўнікі, інжынеры, тэхнікі, трактарысты, хранаметражысты, камбайнеры і іншыя спецыялісты, якія выпрабоўваюць навейшыя машыны, прызначаныя для сельскай гаспадаркі.

Такіх станцый у краіне каля дваццаці. Заходняя МВС выпрабоўвае тыя машыны, якія будуць працаваць на палях нашай рэспублікі. Машын многа.

Вось новая бульбасаджалка. Пры квадратна-гнездавой пасадцы гэтая машына працуе без мернага дроту, перастаноўка якога патрабавала многа часу. Машына гэтая была-б зусім добрай, калі-б кіраванне ёю было прасцейшым. Таму спецыялісты станцыі прапанавалі канструктару бульбасаджалкі спрасціць кіраванне ёю так, каб на ёй мог працаваць кожны механізатар.

Вось перасоўная зернесушылка. У параўнанні са сваёй папярэдніцай яна ўдвая меншая.

А вунь за трактарам «Беларусь» ідзе камбайн новай канструкцыі — праматочны. Ён меншы і лягчэйшы за самаходны, на ім можна добра ўбіраць палеглае збожжа.

Як-жа праходзіць выпрабаванне?



Мы пазнаёміліся з маладым інжынерам-выпрабавальнікам выхаванцам Мінскага політэхнічнага інстытута камсамольцам Андрэем Рунцо і старшым аграномам станцыі Анатолем Зубенкам, таксама маладым спецыялістам, які скончыў у мінулым годзе сельскагаспадарчую акадэмію імя Ціміразева. Яны і расказалі нам, як выпрабоўваюцца машыны новых канструкцый.

Вось пагрузчык з гідраўлічным пад'ёмнікам для пагрузкі хмызняку — вельмі перспектыўная машына для асваення балот. Пагрузчык павышае прадукцыйнасць цяжкіх работ больш чым у 20 разоў.

Андрэй Рунцо непасрэдных адносін да выпрабавання пагрузчыка не мае. Аднак ён з вялікай цікавасцю сочыць за тым, як выпрабоўваецца гэтая машына.

На бульбяным полі — навесная машына «КОН-2,8П». Яна спалучае ў сабе культыватар, акучнік і падкормшчык. Да гэтай машыны Рунцо мае прамыя адносіны. У маладога інжынера склалася цвёрдая думка, што «КОН-2,8П», поруч са станоўчымі якасцямі, мае два вялікія недахопы. Акучванне і культывацыю машына робіць добра, але тукавысяваючыя апараты часта псуюцца. Яны могуць высяваць толькі грануляваныя ўгнаенні, а сыпучыя застраюць у трубаправодах. Другі недахоп «КОН-2,8П» — слабае мацаванне рабочых органаў. Сваёю думкай аб тым, як палепшыць канструкцыю машыны, Андрэй падзяліцца з прадстаўнікамі завода «Рассельмаш», які выпускае гэтыя машыны.

Выпрабаванне на станцыі дапамагае знайсці шлях да паляпшэння канструкцый машын. Трактарны гноераскідальнік «НТ-2» меў слабыя восі ходавых колаў. Станцыя забракавала машыну. Асіпенкаўскі завод дарожных машын па парадзе станцыі паставіў больш трывалыя восі, і апарат стаў працаваць як мае быць.

Заходняя машынавыпрабавальная станцыя толькі ў гэтым годзе дасць сваю ацэнку 82 машынам новай канструкцыі. Адна гэтая лічба сведчыць аб тым, як расце і ўдасканальваецца тэхніка сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

**В. П.**



На здымках (зверху ўніз): 1. Інжынеры-выпрабавальнікі: Міхаіл Калюта (злева) і Андрэй Рунцо перад выпрабаваннем аглядаюць захватваючы апарат механічнага пагрузчыка. 2. Пагрузчык працуе. 3. Новы культыватар. Акрамя культывацыі, ім можна акучваць і падкармліваць пасевы. 4. Гноераскідальнік за работай.

На ўкладцы: Ідзе выпрабаванне праматочнага камбайна «ЖМ-2,1». Аглядаюць машыну (злева направа) слесар-выпрабавальнік К. Буйноў і інжынеры А. Рунцо і А. Зубенка.

Фото А. Дзітлава.



«Маладыя мастакі». Рэпрадукцыя з эскіза студэнта II курса Беларускага Дзяржаўнага мастацка-тэатральнага інстытута Ф. Бараноўскага.

# АГІТАТАР І ЯГО СЯБРЫ

Г. ШЧАРБАТАЎ

Нарыс




Агітатар Марыя Сасімовіч.

На адкрытым партыйным сходзе стаяла адно пытанне: аб узмацненні агітацыйна-масавай работы сярод калгаснікаў. Асаблівую ўвагу сакратар партарганізацыі Шурынаў звярнуў на стан жывёлагадоўлі. З яго слоў было відаць, што калгас імя Жданава адстае з прадукцыйнасцю жывёлы: вельмі нізкія надоі малака, зусім мала адкармліваецца свіней. Было вырашана паслаць да жывёлаводаў моцных агітатараў-комуністаў.

— Пашліце і мяне, — папрасіў тады настаўнік Ярэміцкай сярэдняй школы комсамолец Мікалай Ульянка.

— Як думаюць комуністы? — звярнуўся да сходу Шурынаў.

Калгасныя комуністы ведалі, што Ульянка з'яўляецца сакратаром школьнай комсамольскай арганізацыі, някепска кіруе комсамольскай палітшколай, што вясковая моладзь з ахвотай ідзе да яго за рознымі парадамі і дапамогай. Ведалі і тое, што хлапец не застыў у сваім развіцці, ён працягвае завочна вучыцца ў педінстытуце.

— Я думаю, што партыйны сход можа даверыць таварышу Ульянку, — сказаў старшыня калгаса Бычко.

Яго падтрымалі іншыя комуністы. Комсамольцу даручылі весці агітацыйную работу на ферме першай і другой брыгад.

Агітатарам да паляводаў адной з брыгад сход назначыў піонерважатую Марыю Сасімовіч. Комсамольцы разам выйшлі са сходу.

— Цяпер трымайся, Марыя, — у жарт пачаў Мікалай. — Як сакратар комсамольскай арганізацыі, праверу тваю работу.

— Яшчэ пабачым, хто лепш будзе працаваць, — з усмешкай адказала дзяўчына.

Узрушаны даверам старэйшых таварышаў, Мікалай адразу накіраваўся на жывёлагадоўчы двор. Быў вечар. З Нёмана, з шырокіх паплавоў на вёску наплываў бялесы туман. У яго густых хвалях, нібы ў моры, плавалі будынкі, сады, прысады. Змрок паступова цяжэў. «Відаць, нікога не застану», — падумаў Ульянка, але ўсё-ж не завярнуў дахаты, а пайшоў далей, на выган. Неўзабаве ён быў ужо на ферме. У кароўніку яшчэ працавалі даяркі. Мікалай прывітаўся з імі і расказаў аб пастанове партыйнага сходу. Ён пацікавіўся, ці прыходзяць на ферму газеты.

— А дзе-ж іх чытаць, тыя газеты? — ускліснула комсамолка Марыя Заяц.

На ферме не было чырвонага кутка. У прыёмшчыцы малака, якая тут-жа правярала надоі і занатоўвала паказчыкі ў сшытак, агітатар даведаўся аб поспехах кожнай даяркі. Уласна, поспехаў ніякіх не было. Усе даяркі надойвалі за дзень па 40—50 літраў ад замацаваных за кожнай з іх дванаццаці-трынаццаці кароў. «Ну і надоі, як ад коз! Гэтак мы ніколі не выканаем абавязацельства калгаса надаіць у 1955 годзе па 1 200 літраў малака ад кожнай каровы», — заключыў Мікалай.

— Чаму-ж гэта такія малыя надоі? — спытаў ён у даярак.

— Запытайце ў пастухоў, яны пасвяць гавяду, — адказала пажылая даярка Варвара Хмель і злосна дадала: — Выганяць на дзве-тры гадзіны і зноў у хлеў...

— Хіба толькі ў пастухах справа, — умяшалася Заяц.

Мікалай Ульянка бачыў: многа спраў чакае агітатара. Не выходзіла з галавы мізэрная лічба надояў малака. «Але як-жа павысіць прадуктыўнасць жывёлы? — думаў сам сабе агітатар. — І параіцца няма з кім, зоатэхніка ў нас няма»...

Назаўтра ён пайшоў у калгасную бібліятэку і выбраў некалькі брашур аб доглядзе буйнай рагатай жывёлы. Тут былі брашуры аб вопыце работы жывёлаводаў калгаса імя Дзержынскага Слуцкага раёна, аб кармленні малочных кароў, аб вопыце работы зоатэхнікаў і іншыя.

«Вечарам трэба пачытаць, як працуюць лепшыя жывёлаводы», — вырашыў Мікалай. Потым ён зноў абыйшоў ферму, шукаючы, дзе можна было-б арганізаваць чырвоны куток. На ферме месца не знайшлося. Побач з фермай стаіць новая вялікая хата калгасніка. Ён зайшоў туды, павітаўся з гаспадыняй, якая была дома, растлумачыў свой намер.

— Калі ласка, — згадзілася калгасніца, — у нас усёроўна адна палова хаты пустуе.

У той-жа дзень агітатар абсталяваў чырвоны куток. Перанёс сюды частку кніжак з калгаснай бібліятэкі, газеты, часопісы. На сценах развесіў плакаты аб рабоце жывёлаводаў. Пакой стаў выглядаць утульна і прыгожа. Мікалай з прыемнасцю агледзеў яго і падумаў: «Цяпер можна пачынаць работу».

Увесь вечар ён сядзеў над кнігамі. Перад ім, на яго здзіўленне, адкрывалася многа невядомага і вельмі цікавага. Сын селяніна, усё жыццё звязаны з сельскай гаспадаркай, ён думаў, што добра ведае, як накарміць жывёлу, як яе дагледзець. Калі яго пасылалі агітатарам, ён не сумняваўся, што добра ведае працу на ферме. А тут раптам ён адчуў сябе навічком, першакласнікам, якому ўсё трэба было пачынаць спачатку. І чым больш агітатар паглыбляўся ў матэрыял, тым больш расла яго цікавасць. Калі-ж позна вечарам усе брашуры былі прачытаны, Мікалай пачаў аналізаваць матэрыял. Не ўсё можна было прымяніць на ферме калгаса імя Жданава. Але многае можна было пераняць і ўжанаўцам. «Зялёная падкормка, цвёрды распарадак у доглядзе, чысціня ў кароўніку, — падагульняў Ульянка. — Так, усё гэта трэба ўводзіць на ферме». Ён вырашыў у поўдзень наступнага дня правесці першую гутарку.

На світанні яго разбудзіў матчын голас:

— Уставай, Коля, па цябе прышлі.

Ён хуценька падхапіўся і ўбачыў у другім пакоі ўстрывожаны твар Марыі Заяц.

— Мікалай Васільевіч, — выгукнула яна, — карова гіне...

— Як?

— Відаць, з вечара ўшчаміла галаву паміж перакладзінамі і зусім задыхаецца.

Разам з даяркай Ульянка кінуўся да фермы. У кароўніку ўжо былі загадчык фермы, другія даяркі. Вінавата і разгублена спрабаваў апраўдвацца начны вартаўнік Уладзімір Вашэцік:

— Людцы добрыя, хіба-ж за ўсімі дагледзіш?..

— А нашто-ж ты пастаўлены калгасам? Ты-ж, відаць, за ўсю ноч у кароўнік не заглянуў. Вартаўнік!.. — дапякалі яго даяркі.

Карова была выратавана.

З гэтага часу Мікалай Ульянка зразумеў, што і яго калгаснікі лічаць адказным за ўсё, што-б ні здарылася на ферме. «Трэба пагаварыць з вартаўнікамі, каб у час дзяжурства часцей у хлявы заглядалі», — вырашыў ён.

Відаць, паважаючы ў вёсцы маладога настаўніка Ульянку, бо на гутарку сабраліся ўсе жывёлаводы. Паселі проста на мураве, непадалёку ад кароўніка, перакідваліся жартамі. Агітатар пачаў гутарку. Ён расказаў аб тым, як перадавыя жывёлаводы рэспублікі дабіваюцца высокай прадукцыйнасці калгаснай жывёлы. Неяк сама сабою гутарка зайшла пра свой калгас.

— Хацелася-б ведаць, чаму ў нас такія нізкія надоі? — запытаў Мікалай у даярак. — Вось, напрыклад, у вашых кароў, цётка Варвара?

Пажылая, нетаропкая Варвара Хмель неяк крыва ўсміхнулася і адказала:

— Каровы такія. Што вы хочаце ад маіх першацёлак?

Марыя Заяц, відаць, не адобрыла яе слоў, бо сказала:

— Народ гаворыць: што ў каровы на языку, тое і ў падойніку. А ў нашых кароў на языку за дзень вельмі мала чаго бывае. Падкармліваем мы іх рэдка. Вось Варвара рэдка калі ездзіць для сваіх кароў па зялёную падкормку...

— Бач ты, знайшлася ўказчыца, — не на жарт ускіпела Хмель. — У самой яшчэ малако на губах...

Агітатар не хацеў, каб гутарка перайшла ў сварку, таму запытаў у даярак:

— А вы ведаеце, колькі дае малака кожная карова?

Высветлілася, што ўлік заблытаны, даяркі не ведаюць надояў ад кожнай каровы, не вывучаюць асаблівасцей кожнай жывёліны. З гутаркі Ульянка зрабіў вывад: трэба як належыць наладзіць улік на ферме і арганізаваць пастаянную падвозку каровам зялёных кармоў.

Неяк, ідучы па вуліцы, ён сустрэў студэнтку Мінскага педагагічнага інстытута Ганну Тамашкевіч, якая прыехала на канікулы.

— Аня, што ты думаеш рабіць летам? — спытаў ён у дзяўчыны.

— Яшчэ не ведаю.

— На ферму прыёмшчыцай пойдзеш? — І растлумачыў: — Разумееш, трэба наладзіць дакладны ўлік.

Дзяўчына згадзілася. Агітатар дамовіўся са старшынёй калгаса аб новай прыёмшчыцы, аб падвозцы зялёных кармоў на ферму. Цяпер не было таго дня, каб ён не заходзіў на ферму, не цікавіўся поспехамі. І кожны раз Ганна Тамашкевіч расказвала аб выніках дня. Паступова надоі павышаліся, і гэта радавала агітатара.

Аднойчы ў калгас прыехаў інструктар райкома комсамола па зоне МТС Леанід Гацкі. Ён расказаў Мікалаю, што рыхтуецца раённая нарада перадавых даярак. «Трэба скарыстаць гэта для разгортвання спаборніцтва паміж даяркамі», — вырашыў агітатар. У той-ж дзень Ульянка правёў гутарку з даяркамі і паведаміў ім навіну.

— Сорам нам будзе, калі ні адна з нашых даярак не трапіць на нараду, — закончыў Ульянка. — Давайце разгорнем спаборніцтва, каб вывесці свой калгас у перадавыя.

Агітатар ведаў, што не так лёгка гэта зрабіць. Калгас знаходзіцца на дванаццатым — амаль апошнім — месцы ў раёне па надоях малака. Але ён верыў у сілу сваіх калгасніц і не сумняваўся ў поспеху.

І сапраўды, весялей пайшлі справы на ферме. Комсамолкі Марыя Заяц і Антаніна Бурэц папрасілі ў агітатара брашуры аб вопыце работы лепшых даярак. І неўзабаве агітатар заўважыў, як маладыя даяркі старанна масажыравалі вымя кароў, як яны чысцілі жывёлу, адна перад адной стараліся лепш яе накарміць. Надоі малака ў іх кароў пайшлі ўверх. Цяпер часта можна было чуць, як Ганна Тамашкевіч гаварыла:

— Малайчына, Маня, сёння самы вялікі надой у тваіх кароў — сто дзесяць літраў.

Або:

— Ого, Тоня, сёння ты перагнала ўсіх — сто пятнаццаць літраў маеш!

Агітатар вырашыў падтрымаць комсамолак. Ён выпусціў «Маланку», у якой расказаў аб метадах іх работы, заклікаў браць з іх прыклад. Трэба было падцягваць другіх даярак, якія ўсё яшчэ працавалі абы з рук. Ён не аднойчы заўважаў, што Варвара Хмель да сваёй працы ставіцца неяк абыякава. Корм каля яе кароў заўсёды раскіданы, жывёла ніколі не чысціцца. Сустрэўшы яе адну, Ульянка асцярожна спытаў:

— Цётка Варвара, ці не будзе вам крыўдна, калі маладзейшыя вас абгоняць?

— Няхай на здароўе стараюцца. Чаго-ж тут крыўдаваць? — шчыра адказала Хмель.

— Ну, усё-такі ў вас і вопыту больш, і прэміравалі вас у мінулым годзе.

— Куранят увосень лічаць, Мікалай, — ужо з ноткай раздражнення адказала даярка.

На тым гутарка і скончылася, але яна не прайшла бясследна. Заглянуўшы неяк у кароўнік, Ульянка заўважыў, як Варвара Хмель старанна чысціла стойлы, як яна насіла ў кармушкі зялёную падкормку і акуратна складвала яе. Пачуццё задавальнення агарнула агітатара. Гэтае пачуццё яшчэ больш узмацнілася, калі праз некалькі дзён агітатар даведаўся, што Варвара Хмель з дня ў дзень усё больш надойвае малака ад сваіх кароў. Цяпер яна адставала ад Марыі Заяц толькі на тры-чатыры літры. Ульянка вырашыў скарыстаць гэта і зноў выпусціў «Маланку», у якой гаварылася: «Варвара Хмель павышае надоі!» Ён бачыў, што цяпер сярод даярак разгортваецца сапраўднае спаборніцтва за высокія надоі. Дзяўчаты імкнуліся не ўпусціць першынства. Прыёмшчыца Ганна Тамашкевіч аднойчы патрабавала ад загадчыка фермы дадатковых бідонаў.

— Што ты, дзяўчо, — здзівіўся той. — У нас усе гады гэтых хапала.

Дзяўчына гарэзліва паглядзела на Мікалая і жартаўліва адказала:

— Тады не быў тут агітатарам Ульянка...

— А прыёмшчыцай Тамашкевіч, — дадаў Ульянка, і яны засмяяліся. Калгасу сапраўды спатрэбілася тэрмінова купіць новыя бідоны.

На нараду перадавых даярак раёна паехалі Марыя Заяц і Антаніна Бурэц. Да нарады раённая газета выдала плакат, на якім былі паказаны поспехі ўсіх калгасаў і лепшых даярак. Глядзелі дзяўчаты на гэты плакат і радаваліся. Калгас імя Жданава выйшаў у лік перадавых у раёне па надоях малака. Гордасць за сваю працу, за агітатара, які шмат у чым дапамог даяркам, напаўняла сэрцы комсамолак.

Быў задаволены поспехамі і агітатар, але не супакойваўся. Ён ведаў, што настаў вельмі адказны перыяд у жыцці калгаса — нарыхтоўка кармоў. У гэтыя дні яго не бывала дома. Захапіўшы касу або граблі, а таксама свежыя газеты, ён ішоў на паплавы. Тут ён штодзень сустракаў і Марыю Сасімовіч. Яна звычайна прыходзіла на луг з усім піонерскім атрадам. Хлопчыкі і дзяўчынкі сушылі сена, складвалі яго ў копы. У абедзенны перапынак каля Марыі збіраліся калгаснікі і калгасніцы. Дзяўчына разгортвала газету і чытала найбольш цікавыя матэрыялы, расказвала аб важных падзеях, што адбываюцца ў свеце.

Аднойчы, сустрэўшы Ульянку, Марыя запытала:

— Колькі ў цябе працадзён?

— А што?

— А ў мяне ўжо сорак пяць, — не ўтрымалася, каб не пахваліцца, дзяўчына.

— А гутаркі?

— Кожны дзень праводжу, а як ты думаў!

Ульянка прыхільна ўсміхнуўся. «Апраўдвае давер'е комуністаў», — падумаў ён.

... Прышлі газеты з матэрыяламі аб рабоце Жэнеўскай нарады кіраўнікоў чатырох дзяржаў. У абедзенны перапынак Мікалай Ульянка сабраў жывёлаводаў. Ён расказаў ім аб той сардэчнасці і ўзаемаразуменні, з якімі праходзіла Жэнеўская нарада, аб дамоўленасці кіраўнікоў чатырох вялікіх дзяржаў па многіх прынцыповых пытаннях міжнароднага жыцця. Агітатар бачыў, з якой увагай слухалі простыя савецкія людзі добрыя весткі з Жэневы, адчуваў іх гатоўнасць самаадданай працай мацаваць справу міру. Калі гутарка закончылася і жывёлаводы пачалі разыходзіцца, Варвара Хмель з павагай сказала Ульянку:

— Што вы, Мікалай Васільевіч, ніколі не зойдзеце да мяне? Паглядзелі-б, як я жыву, параіліся-б аб далейшай рабоце.

— Дзякую, абавязкова зайду, цётка Варвара, — адказаў агітатар, і вялікая радасць ахапіла яго. Ён ужо не раз чуў, як тая ці іншая даярка гаварыла яму:

— Заходзьце да нас часцей, Мікалай Васільевіч.

«Колькі ў мяне харошых сяброў паявілася, — з гонарам думаў Ульянка. — Добра быць агітатарам!»

**Калгас імя Жданава**
**Мірскога раёна.**



## АКТЫЎНАСЦЬ МОЛАДЗІ

**Калгас імя Гарбачова на Любаншчыне славіцца актыўнасцю моладзі. У якую брыгаду ні заглянеш, з якой галіной гаспадаркі ні пазнаёмішся — усюды сустрэнеш дбайных маладых гаспадароў. Многа моладзі працуе на жывёлагадоўчых фермах.**

**Адным з важнейшых сваіх абавязкаў маладыя жывёлаводы лічаць нарыхтоўку кармоў. Даяркі, цялятніцы, свінаркі знаходзяць час для ўдзелу ў сенакашэнні, у стварэнні запасаў сіласу, коранеплодаў. Непадалёку ад свінагадоўчай фермы расце высокая кукуруза. Гэты ўчастак засеяны і даглядаецца комсамольцамі, якія працуюць на ферме. Добрыя кукурузныя палі і ў іншых брыгадах.**

**У выніку дружнай працы запасы сена і сакавітых кармоў у калгасе сёлета значна перавышаюць мінулагодніх. Так да сярэдзіны жніўня, калі кукуруза яшчэ расла на полі, колькасць засіласаваных траў ужо ўдвая перавысіла запасы сіласу, зробленыя за ўсё мінулае лета.**

На здымку: **Свінарка Марыя Радкевіч аглядае кукурузу.**

Фото А. Дзітлава.



Мал. С. Раманава.

# НЕЗАБЫЎНАЕ РЭХА

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Апавяданне**

Заціхла к позняму вечару рэчка Лабжынка, яе ўжо нават і не відно, калі глядзець збоку. На лузе пацямнела і нібы прытаілася ў чаканні благатворнай расы густая трава. І раса, пэўна, будзе, вялікая будзе раса, бо дзень сёння быў цёплы, пагодлівы. Ужо цяпер над рэчкай пачынае ўзнімацца шыза-белы туман і вызначаць на лузе ўсе свавольныя звілінкі, якія робіць тут рака. Чароўная шыза-белая лента ўецца па лузе, па вербалозніку і рассцілаецца далёка-далёка, аж да самага небасхілу. Каля яе зрэдку падаюць свае поўдрымотныя галасы кулікі, сяды-тады скрыпуча абзавецца драч. А самы канец ленты раптам пачынае чырванець. Чырвань гэтая хутка пашыраецца і што далей, то ўсё больш радзее, пераходзіць у барвовасць, а потым у светлую жаўцізну. Гэта ўзыходзіць месяц. Хутка ён залье сваім святлом луг, лясок непадалёку ад рэчкі, густыя ўпрыцемку, нібы злітыя, кусты вербалозніку.

Сёння — самы вялікі дзень у годзе, дваццаць другое чэрвеня. Увесь дзень тут, каля рэчкі, было многа людзей, многа гоману, песень, весялосці. У ляску на зялёнай палянаiчцы праходзіла Свята песні, арганізаванае райкомам камсамола. Гэта так усе гаварылі: райкомам камсамола, а на самай справе ўсё арганізавала Надзя, загадчык аддзела па рабоце сярод вучнёўскай моладзі і піянераў. Першы сакратар, як даведаўся, што яго хочуць паслаць на вучобу, умыў ад усяго рукі, а другі засеў перад завочнай сэсіяй за падручнікі. На свята Надзя запрасіла прадстаўнікоў суседняга райкома камсамола. Прыехаў на матацыкле першы сакратар Нікалай Ванесаў і з ім Маша, даўно знаёмая Надзі дзяўчына, інструктар абкома камсамола.

Песні спяваліся звонка, на ўсе грудзі, і зладжана, як ніколі. Надзя дырыжыравала зводным хорам чатырох школ, а Маша, паправіўшы з дарогі светлыя локаны, стала ў рад са старшакласніцамі і неяк адразу нібы злілася з імі: гэткае-ж у яе белае, з тугім паяском плацце, гэткія-ж свежа загарэлыя рукі. І сама яна невялікая ростам, стройная, з пяшчотным, як у дзіцяці, падбародкам. Нікалай таксама прыстаў да мужчынскай групы. Сярод школьных спевакоў ён вылучаўся большай абветранасцю твару (язда на матацыкле дала сваё) і ледзь не блішчастай чарнатой густых валасоў.

Надзя, дырыжыруючы, спявала, яна і дырыжыравала больш голасам, чым рукамі. Рукі ў яе хадзілі няўпэўнена, асабліва ў тыя хвіліны, калі яна думала пра гэта. А голас у Надзі асаблівы. Ён і моцны і ў той-жа час лірычны, прыгожага тэмбру. Удзельнікі хору яго чуюць, а ў ансамблі ён не выбіваецца. І яшчэ вочы памагаюць Надзі дырыжыраваць, карыя, выразныя вочы. Калі дзе пачуецца хоць самая маленькая нязладжанасць, Надзя глядзіць туды і глядзіць так, што харысты адразу-ж папраўляюцца. Часта насцярожаны позірк дырыжора спыняўся і там, дзе яшчэ толькі намячалася шчылінка ў галасах. Спыняўся ён і на Машы, але зусім не для таго, каб папраўляць яе. Маша спяваць умела і дзесяткі песень ведала на памяць. Карыя і блакітныя вочы сустракаліся, мабыць, толькі для таго, каб адчуць адзінства ўрачыстасці, каб абодва галасы набывалі яшчэ большы прастор, яшчэ прыгажэйшае гучанне. І калі ўсхваляваны погляд Надзі міжвольна пераходзіў на смуглявы твар Нікалая, у голасе яе з'яўлялася нейкае адметнае дрыжанне, твар палаў радасцю і верхнія ноты гучалі так прыгожа і ўрачыста, што кожнаму, хто стаяў у гэты час збоку, хацелася паслухаць Надзю адну.

Пасля песень гулялі ў розныя гульні, а на змярканні, калі малодшыя школьнікі пайшлі дадому, расклалі касцёр. Каля кастра ўсе дарослыя сталі дзецьмі: скакалі цераз агонь, бегалі навыперадкі. Маша на ўвесь лясок залівалася вясёлым смехам і кожную хвіліну выдумляла што-небудзь новае ў гульнях. Завадатарам яна была найлепшым: усё ў яе выходзіла лёгка і проста. Кожны яе жэст хацелася паўтарыць, а кожнае слова прыбаўляла весялосці. Неяк вельмі смяшліва і зусім па свойму яна ўжывала слова «абы што»: «сказала абы што», «з'ела абы што», «села на абы што».

— Выдумай яшчэ абы што! — часта прасіў яе Нікалай Ванесаў.

Потым агонь стаў памаленьку затухаць, галля больш не падкідалі, бо тут мала яго было, — лясок маладзенькі, пасляваенны. Усе трошкі стаміліся ад гульняў, трошкі здаволіліся. Нікалай Ванесаў завёў матацыкл і пачаў вучыць хлопцаў ездзіць, дзяўчаты пайшлі на рэчку, а Надзя з Машай засталіся каля агню. Рэдкі дымок ішоў ад вуголляў, плыў па траве і знікаў каля рэчкі. Нехта раптам крыкнуў каля рэчкі, і Надзя ўсхапілася, пачала прыслухоўвацца.

— Чаго ты? — спытала Маша.

На рэчцы засмяяліся, тады і Надзя, усміхнуўшыся, села.

— Тут у нас у мінулым годзе тапіліся некаторыя.

— Хто? — спытала Маша.

— Я, напрыклад. І яшчэ адна піянерка, удзельніца злёту. Тут у нас піянерскі злёт быў. Цяпер я, праўду сказаць, пабойваюся гэтай рэчкі і, калі ўспамінаю пра гэты выпадак, у вачах цямнее.

— А я два разы тапілася, — сказала Маша, — і нічога. Цяпер затое плаваць добра ўмею і ўжо больш ніколі не ўтаплюся.

— Ты жартуеш? — Надзя на хвіліну змоўкла.

— Я не жартую, — апраўдвалася Маша. — Я сапраўды пераламала ў сабе гэты вадзяны страх і з таго часу ўсё пайшло добра. Маракі таму і адважныя такія, што навучыліся не баяцца вады. Ім усё адно, што вада, што суша.

— У мяне здарылася неяк па-асабліваму, — пачала расказваць Надзя. — Я крыху ўмела плаваць і тады. Дзяўчынка крыкнула, а я ў той момант не зразумела, што яна топіцца. Нікога каля рэчкі якраз не было. Потым бачу, што трэба ратаваць, кідацца ў ваду, але стаю на беразе, крычу. Далей ужо і сама не памятаю, што было. Нейкі страшны шум, нейкія жоўтыя кругі над галавою. Калі я расплюшчыла вочы, то ўбачыла перад сабою мокры твар Ванесава. Ён тады таксама быў на злёце. Нікалай стаяў ля мяне на каленях, з яго вопраткі цякла на траву вада. Два старшакласнікі адкачвалі побач пасінелую дзяўчынку, а наш Лупіновіч, першы сакратар райкома, стаяў на беразе ў жоўтай сухой майцы і нечага крычаў, махаў рукамі.

«І тут камандуе, — падумалася мне, — а сам нават ног не памачыў». І стала прыкра глядзець на гэтага чалавека. Потым я зірнула ўбок і ўбачыла свае мадэльныя басаножкі. Яны стаялі побач і паблісквалі на сонцы чыстым лакам. «Значыць, я не толькі доўга не рашалася кідацца ў ваду, а нават успомніла, што варта скінуць новыя басаножкі? Лепш было ўтапіцца, чым перажываць цяпер такую віну».

Пазней я даведалася, што Лупіновіч прыбег да рэчкі адразу-ж пасля таго, як я кінулася ў ваду, што ён бачыў, як дзяўчынка, вынырнуўшы ўжо, мабыць, апошні раз, схапіла мяне за згіб рукі і пацягнула за сабою, аднак не стараўся дапамагчы сам, а толькі клікаў другіх і загадваў ім хутчэй ратаваць нас. У сэрцы калола ад гэтага, але я ўжо не злавала на Лупіновіча, а толькі сама на сябе. «Чаму я такая нікчэмная, чаму ў мяне часта выходзіць усё, як у Лупіновіча, а не так, як у іншых людзей. Вось-жа Нікалай не тайтаўся на беразе, не думаў пра свае бацінкі і касцюм, а адразу, як толькі дабег да рэчкі, з разгону кінуўся ў ваду».

Доўга мяне мучыла гэтае пытанне, і цяпер я часта ўспамінаю і пра гэты выпадак, і пра многія дэталі сваёй работы ў райкоме.

— А даўно ты ў райкоме? — спытала Маша.

— Вось ужо больш за два гады. А прышла сюды з педвучылішча, камсамольскую работу мала ведала. Была некалі піянерважатай у школе, толькі і ўсяго. Трэба было вучыцца працаваць, а ў каго вучыцца? Зайшла, помню, першы раз у кабінет сакратара райкома, да гэтага-ж самага Лупіновіча.

— Косця, — гавару, — калі нам лепш правесці нараду піянерважатых?

А ён мне:

— Я вам не Косця, а Канстанцін Елізаравіч.

Я выйшла з кабінета. Спачатку мне зрабілася смешна, а потым нейкая крыўда апана-



вала, проста да слёз. Не так даўно мы разам вучыліся ў школе, ён толькі гады на два ішоў уперадзе. Потым колькі разоў сустракаліся тут у нас, у горадзе. І заўсёды гэта быў Косця, звычайны, крыху, праўда, занослівы, але ўсё-ж просты хлопец. А стаў сакратаром райкома — і ўжо адразу Канстанцін Елізаравіч!

Гляджу аднаго разу праз акно маёй піонерскай бакоўкі — ідзе Лупіновіч па вуліцы, трымае курс у райком. Ідзе спаважна, уразвалачку і толькі злёгку памахвае адной рукой. Мне кінулася ў вочы нешта вельмі знаёмае ў гэтай паходцы. Стала ўспамінаць і ўспомніла, што гэта наш сакратар райкома партыі так ходзіць. Потым глядзім мы ўсе, — гэта ўжо другім разам было: заходзіць Лупіновіч у райком, здымае шапку і, браткі мае, — уся галава паголена, так і блішчыць, як гарбуз на сонцы. Твар стаў круглы, як у груднога дзіцяці. А такія былі валасы ў хлопца: каштанавыя, густыя. Аказалася, што гэта сакратар райкома партыі пагаліў галаву, дык і Лупіновічу-ж трэба. Не ўлічылася толькі тое, што сакратар райкома партыі пачаў лысець і яму неабходна было пагаліць сваю галаву.

І вось пайшло ў нас такое жыццё ў райкоме. Прыдзе хто-небудзь з комсамольцаў, сядзе ў агульным пакоі каля дзвярэй сакратара і чакае, чакае... Загадчык вучотам павінна далажыць сакратару, хто прышоў. А дакладваць ёй дазвалялася толькі тады, калі сакратар зусім вольны і нават па тэлефону не размаўляе. А калі ён не размаўляе? Праз перагародку заўсёды чуцён яго голас, то камандны, то абыякавы, з пазяханнем.

Мне спачатку вельмі не падабалася ўсё гэта, я мучылася на рабоце. А потым, паверыш, Маша, прайшоў час і я сама стала пакрысе камандаваць, пакрыкваць на людзей. Чамусьці мне стала здавацца, што без гэтага нельга і абыйсціся. Хто ні прыдзе да нас з абкома комсамола, усе хваляць Лупіновіча: дзелавы чалавек, умее працаваць. І вось зайшла аднаго разу да мяне піонерважатая без стуку ў мае фанерныя дзверцы. І мне крыўдна стала, што яна не пастукалася. Размаўляю з ёй, а сама адчуваю, што не магу схаваць крыўды. Дзяўчына, відома, заўважыла гэта і больш да мяне не пайшла.

Іншы раз бяру тэлефонную трубку і сама не заўважаю, як адразу мяняецца мой голас. І не люблю я гэты голас, але і змяніць не магу. Чую нешта сухое, казённае, падчас абураюся, а таго, з кім размаўляю, не слухаю.

— Шкада, што я ў гэты час не прыехала, — сказала Маша, — а то я пагаварыла-б з табой па тэлефону.

— Дык гаварылі. Слухай. Прыехалі аднаго разу з вобласці. Вельмі паважаны чалавек прыехаў. Звоніць у райком. Нікога якраз не было, я бяру трубку. «Хто?» пытаю. Ён адказвае. Я зноў: «Хто, хто?» Чую, што прозвішча знаёмае, быццам-бы і разумею, што ведаю гэтага чалавека, а ўсёроўна пытаю. Паверыш, пяць разоў я перапытала ў яго прозвішча, а ён усё цярпліва адказваў. «Сакратара няма», — сказала я нарэшце і павесіла трубку.

Цяпер мне проста аж цяжка ўспамінаць пра гэта. Прышоў гэты чалавек у райком, ты, пэўна, таксама ведаеш яго, але я не буду называць прозвішча. Вітаецца са мною, а потым такім, зусім ветлівым тонам пытае:

— Гэта мы з вамі сёння размаўлялі па тэлефону?

— Мусіць так, — адказваю я.

— Вы гэтак і з піонерамі размаўляеце?

Я пачырванела, стаю перад гэтым чалавекам, як некалі перад настаўнікам у школе, і нічога не магу сказаць.

— Учора я наведваўся да вашых суседзяў, — сказаў перад адыходам чалавек, — і там падобных з'яў не заўважаў.

Я дзён тры перажывала пасля гэтага і старалася зусім не падыходзіць да тэлефона. Калі з-за перагародкі чуўся голас Лупіновіча, мне хацелася заткнуць вушы, або нават уцячы з райкома. Потым мне самой давялося пабываць у нашых суседзяў. У той год наш піонерскі лагер быў на іхняй тэрыторыі, і ўжо не помню, па якой справе я зайшла ў райком. Зайшла, стаю ў агульным пакоі, чакаю, пакуль хто прыдзе, каб спытаць, ці можна зайсці да сакратара. Дзверы ў кабінет прыадчынены. Чую, як нехта весела смяецца, а потым той-жа голас гаворыць:

— Ты, Валодзя, не давай там вельмі гультаяваць піонерам, прывучай іх не баяцца працы. Няхай яны самі і дровы колюць і ваду носяць. Чаго там! Не беларучкі!

І мяне адразу нібы выцялі гэтыя словы. Я ўспомніла, што робіцца ў нашым лагеры. Сапраўды беларучак выхоўваем. Афіцыянткі абед падаюць, прыбіральшчыцы нават ложак запраўляюць. Прыехала аднаго разу ў лагер жонка нашага старшыні райспажыўсаюза, убачыла, што яе дачка паласкала ў рэчцы свой сарафанчык, ды як закрычыць, затупаціць нагамі: «Што гэта, лагер ці не лагер? Прыбіральшчыцы не могуць гэта зрабіць? Мы заплацім, калі ўжо наша дзяржава такая бедная!»

Паскардзілася Лупіновічу, а той потым цэлую гадзіну даваў мне настаўленні.

Стаю так, думаю, і ў гэты момант выходзіць сакратар, вось гэты самы Нікалай. Я тады першы раз яго ўбачыла.

— Вы да мяне? — пытае.

— Да вас, — кажу. — Я з лагера.

— Дык чаго-ж вы не заходзіце? Заходзьце, калі ласка!

З таго дня я часта бывала ў суседнім райкоме і больш раілася з Ванесавым, як з Лупіновічам. І што далей, то ўсё цяжэй мне станавілася працаваць з Лупіновічам. А цяпер дык і зусім цяжка, не магу проста цярпець гэтага чалавека. Усюды і ва ўсім ён бачыць толькі сябе. А што робіцца ў арганізацыях? Вунь сілікатны завод пад бокам, а там ужо шэсць месяцаў не было комсамольскага сходу. Нядаўна я выступала на пленуме. Як ты думаеш, Маша, можа мне папрасіцца ў другі райком? Хоць на любую работу!

— У той? — Маша хітра ўсміхнулася і глянула туды, адкуль усё мацней і мацней даносіўся стукат матацыкла: Нікалай, відаць, пад'язджаў бліжэй. — Застанешся ты, Надзюша, тут і, мабыць, надоўга. Такую гаворку я чула ў абкоме.

— Ой, што ты! — Надзя прыўзнялася, здзіўлена замаргала. — Я не згаджуся, ды мяне не выберуць. Мне яшчэ многа трэба вучыцца, каб стаць сапраўдным комсамольскім работнікам.

Пад'ехаў Ванесаў, і Надзя больш ужо не гаварыла пра гэта. Каля рэчкі дзяўчаты бегалі, напэўна, босыя, каб не замачыць у расе абутак, спявалі, аб нечым спрачаліся. Іх постаці ўжо ледзь заўважаліся з таго месца, дзе дагараў касцёр: туман над рэчкай яшчэ больш пагусцеў і ахутаў бераг. Надзі здалося, што сярод гэтага вясёлага гоману і смеху яна зноў пачула на рэчцы крык. Насцярожана глянула на Ванесава. Той выціраў з ілба пот і весела паглядваў на хлопцаў, якія акружылі матацыкл.

— Ну, як? Па карчах ездзіць падабаецца?

— Абы толькі ён выцяг, — запэўнялі хлопцы, абмацваючы запыленыя дэталі машыны, — хоць-бы нават і па канавах.

І Надзі падумалася, што каб, не тут кажучы, зноў трэба было каго ратаваць, то яна цяпер хутчэй-бы за Ванесава апынулася на рэчцы. Не было-б цяпер вагання, разгубленасці і не пакутавала-б потым душа пры ўспамінах аб цяжкім выпадку. Мільгнуў у памяці нядаўні пажар у адной вёсцы якраз у той час, калі яна з групай школьнікаў ішла з палявых работ. Яшчэ і цяпер сляды агню на руках...

— Ну, што-ж, нам, мабыць, пара, — сказала Маша, жвава ўскакваючы на ногі. — Як ты думаеш, Ванесаў?

— Бадай, што трэба ўжо ехаць, — згадзіўся Нікалай.

— Пабудзьце яшчэ, — сказала Надзя і таксама ўстала. — А можа, сёння і зусім не ехаць. Праўда?

Яна пытала пра гэта ў Машы, а сама ледзь прыкметна паглядвала на Нікалая і старалася ўгадаць, што ён скажа на гэтыя словы.

— Гаворыш ты абы што, — сказала Маша. — Заўтра-ж у нас там спартакіяда.

— Поўгадзіны язды, — не адступала Надзя. — Ранічкаю заўтра выедзеце.

— А сапраўды можна так, — сказаў Нікалай, і Надзя кінулася да Машы ў абдымкі, пацалавала яе ў шчаку.

— Давай яшчэ што-небудзь заспяваем, Машанька!

І яна завяла песню, якая заўсёды гучыць у яе памяці, калі на душы весела і радасна. Гэта арыя з адной вядомай оперы. Мелодыя тут імклівая з захапляючымі ўзлётамі і словы, поўныя шчасця і кахання. Маша падхапіла гэтую песню і ўжо больш не спрачалася наконт ад'езду. Прыбеглі з рэчкі дзяўчаты. Песня нібы звінела, нібы лілася свежай, маладой хваляй. Ад яе ішло па рэчцы гулкае рэха. Гэтае рэха надоўга застанецца ў памяці тых, хто спяваў песню. Магчыма, што на ўсё жыццё.



# Моладзь ідзе ў літаратуру

**ДА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЫ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

Разгортваючы новы нумар часопіса або газеты, мы часта побач з творамі вядомых ужо нам пісьменнікаў сустракаем на іх старонках і творы, падпісаныя новымі для нас прозвішчамі. Той, хто любіць мастацкую літаратуру і сочыць за яе развіццём, абавязкова зверне ўвагу і на гэтыя творы і шчыра ўзрадуецца, калі заўважыць у іх праблескі сапраўднага таленту. Значыць, у літаратуру ідуць новыя здольныя сілы, якія, бясспрэчна, памножаць яе здабыткі, забяспечаць ёй далейшыя поспехі.

Кадры савецкіх пісьменнікаў папаўняюцца з году ў год. Яны растуць пераважна за лік моладзі—маладых рабочых, калгаснікаў, студэнтаў, інтэлігенцыі. Масавая цяга моладзі ў літаратуру — з'ява зразумелая. Перад кожным чалавекам у нас адкрыты шырокія магчымасці для праяўлення яго сіл і здольнасцей ва ўсіх галінах творчасці, у тым ліку і творчасці літаратурнай.

Тое, што ў нас шмат пішуць і дасылаюць у рэдакцыі вершаў, апавяданняў, аповесцей, п'ес — факт станоўчы, радасны, ён — адно з яркіх сведчанняў безупыннага культурнага росту, багацця духоўнага жыцця нашага народа.

Пачынаючы пісьменнік у нашай краіне заўсёды знаходзіць падтрымку і дапамогу. Ні адзін твор, куды-б ён ні быў пасланы — у рэдакцыю, выдавецтва, Саюз пісьменнікаў — не можа застацца без увагі. Лепшыя з гэтых твораў друкуюцца на старонках газет і часопісаў, выдаюцца асобнымі кніжкамі.

Калі мы прасочым за развіццём беларускай пасляваеннай літаратуры, мы заўважым, што яна вырасла ў вялікай меры іменна дзякуючы прыходу даволі буйнага атрада пісьменнікаў з ліку таленавітай моладзі. Амаль дзве трэці членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі складаюць цяпер людзі, якія пачалі пісаць у пасляваенныя гады і сваёй творчасцю ўжо заваявалі прызнанне масавага чытача. Яны прышлі ў літаратуру са сваімі тэмамі, сваімі пошукамі і, развіваючы лепшыя традыцыі, узбагачаюць яе скарбніцу.

Многія творы сучасных беларускіх пісьменнікаў як старэйшага, так і малодшага пакаленняў набылі шырокую папулярнасць не толькі ў рэспубліцы, а і за яе межамі — яны перакладзены на рускую мову і мовы другіх братніх народаў СССР, а таксама на мовы краін народнай дэмакратыі. Значна шырэйшай стала тэматыка беларускай літаратуры ва ўсіх яе жанрах. Сучаснае жыццё, надзённыя пытанні, вобразы людзей сённяшняга дня з іх працоўнымі подзвігамі, канфліктамі, думамі і імкненнямі знаходзяць у ёй усё большае адлюстраванне.

Можна назваць рад імён, якія з'явіліся ў беларускай літаратуры ў самыя апошнія гады і таксама прыцягнулі да сябе ўвагу. Такія, напрыклад, маладыя паэты, як Н. Гілевіч, П. Макаль, С. Гаўрусёў, Б. Спрынчан, празаікі А. Карпюк, А. Асіпенка, М. Ваданосаў, В. Дадзіомаў і рад іншых апублікавалі свае творы, якія сведчаць аб тым, што іх аўтары валодаюць несумненнымі здольнасцямі і маюць усе магчымасці ўнесці свой пэўны ўклад у літаратуру. Побач-жа з імі мы сустракаем у друку прозвішчы новых і новых аўтараў.

Нельга, аднак, думаць, што працэс росту літаратурных кадраў просты і лёгкі, што ён можа ісці стыхійна, без арганізацыйнай і прафесіянальнай дапамогі пачынаючым і маладым пісьменнікам. Літаратурная творчасць мае сваю спецыфіку. Чалавек можа мець нядрэнныя літаратурныя здольнасці, але не працаваць над сабой, не вучыцца і загубіць іх. З другога боку у літаратуру нярэдка імкнуцца людзі, у якіх няма ніякіх дадзеных для таго, каб стаць пісьменнікамі, або якія глядзяць на літаратурную працу, як на забаву ці на сродак нібыта лёгкага заробку.

Вось чаму сістэматычная і грунтоўная работа з маладымі літаратарамі, якая ўскладзена партыяй перш за ўсё на Саюз пісьменнікаў і комсамол, мае выключна важнае значэнне.

Абласныя літаратурныя аб'яднанні, літаратурныя гурткі на прадпрыемствах і ў навучальных установах, кансультацыі ў Саюзе пісьменнікаў, у рэдакцыях газет і часопісаў, у выдавецтве заклікаць аказваць дзейсную творчую дапамогу пачынаючым пісьменнікам, адбіраць у вялікім патоку рукапісаў і ўсяляк падтрымліваць тыя творы, у аўтараў якіх прыкметны літаратурныя здольнасці, уважліва працаваць з гэтымі аўтарамі, накіроўваць іх па правільным шляху творчага росту.

У Беларусі літаратурныя аб'яднанні існуюць у кожнай вобласці, пры рэдакцыях абласных газет. Ёсць яны і на некаторых буйных прадпрыемствах, у прыватнасці, на Мінскім аўтамабільным і трактарным заводах, у радзе навучальных устаноў, пры рэдакцыях асобных гарадскіх газет. Саюз пісьменнікаў БССР трымае з імі сталую сувязь, часад-часу пасылае да іх вопытных літаратараў, праводзіць абласныя нарады маладых пісьменнікаў, выклікае аўтараў у Мінск для абмеркавання іх творчасці.

Звычайна там, дзе разам з Саюзам пісьменнікаў літаратурным аб'яднанням аддаюць належную ўвагу рэдакцыі газет і абкомы комсамола, праца гэтых аб'яднанняў вызначаецца актыўнасцю і адчувальнымі вынікамі. Члены аб'яднанняў сістэматычна збіраюцца і абмяркоўваюць творчыя пытанні, друкуюцца ў мясцовай газеце, выступаюць з чытаннем сваіх твораў перад шырокай аўдыторыяй, прапагандуюць літаратуру ў масах.

Вельмі актыўна ў апошнія гады працавала, напрыклад, Магілёўскае літаб'еднанне. Яно выдала на месцы некалькі альманахаў з творамі сваіх членаў. У гэтым аб'яднанні вырасла нямала пісьменнікаў, якія добра вядомы цяпер чытачам усёй рэспублікі,— такіх, як М. Ткачоў, Н. Гарулёў, І. Сіўцоў, Э. Валасевіч, П. Шасцерыкоў. Праяўляюць актыўнасць у рабоце таксама літаратурныя аб'еднанні ў Гродна, Гомелі, Брэсце, аб'еднанні пры рэдакцыі гарадской газеты ў Полацку, на трактарным заводзе ў Мінску.

Для падагульнення работы з літаратурнай моладдзю Саюз пісьменнікаў БССР і ЦК ЛКСМБ штогод склікаюць рэспубліканскія нарады маладых пісьменнікаў—паэтаў, празаікаў, драматургаў і крытыкаў, творы якіх ужо друкуюцца на старонках газет і часопісаў. На гэтых нарадах, акрамя абмеркавання агульных пытанняў развіцця савецкай літаратуры і канкрэтных пытанняў літаратурнага майстэрства, абмяркоўваюцца творы маладых на творчых секцыях з удзелам старэйшых пісьменнікаў.

Сёлетняя нарада шостая па ліку ў пасляваенныя гады. У ёй прымуць удзел каля 50 маладых аўтараў з абласцей і раёнаў, і, бадай, столькі-ж з Мінска. Як і ранейшыя нарады, яна павінна даць новы штуршок рабоце па выяўленню і клапатліваму вырошчванню здольных маладых літаратурных сіл у нашай рэспубліцы.

Не ўсё, вядома, добра абстаіць у гэтай рабоце. Справядлівымі з'яўляюцца папрокі і ў адрас Саюза пісьменнікаў, і ў адрас комсамольскіх арганізацый у тым, што яны ўсё-ж яшчэ недастаткова кіруюць літаратурнымі аб'яднаннямі і гурткамі, што ў рэдакцыях, выдавецтве і ў Саюзе пісьменнікаў часам доўга залежваюцца рукапісы пачынаючых аўтараў, што мала хто са старэйшых пісьменнікаў трымае трывалую сувязь з маладымі, практычна дапамагае ім. Усё гэта, бясспрэчна, варта ўвагі.

Разам з тым, неабходна рашуча змагацца з лёгкадумным, верхаглядскім стаўленнем да літаратуры і літаратурнай працы, якое нярэдка заўважаецца ў асяроддзі саміх маладых пісьменнікаў. Той-сёй з іх думае, што калі ён напісаў твор, — не важна якой якасці,—дык гэты твор абавязкова павінен быць надрукаваны, а калі ён дрэнны, нехта ў рэдакцыі, у выдавецтве, у Саюзе пісьменнікаў дапрацуе яго за аўтара. Калі-ж гэтак не атрымліваецца, малады аўтар пачынае скардзіцца ў розныя інстанцыі.

Кожны з пачынаючых літаратараў павінен памятаць, што аднаго жадання стаць пісьменнікам— мала. Для гэтага перш за ўсё трэба мець прызванне да літаратуры, здольнасці, і нават маючы іх, трэба настойліва і шмат вучыцца, узбагачаць свае агульныя веды, працаваць над авалоданнем літаратурным майстэрствам не пакладаючы рук. Без гэтага немагчыма зрабіць штонебудзь карыснае для літаратуры, не варта і марыць аб пачэснай прафесіі пісьменніка-мастака.

Мастацкая літаратура ў нашай краіне — адзін з важнейшых участкаў ідэалагічнага фронта, і працаваць на гэтым участку — высокі гонар для кожнага, хто валодае пісьменніцкім пяром. Талентаў-жа ў нашым народзе, у тым ліку і літаратурных, — невычарпальная крыніца. З літаратурнай моладдзю звязана будучыня савецкай, самай перадавой у свеце літаратуры, яе далейшы няўхільны росквіт. Таму работа з гэтай моладдзю, вырошчванне новых кадраў пісьменнікаў — справа вялікай грамадскай важнасці.

**Тарас ХАДКЕВІЧ.**



На пасяджэнні літаратурнага аб'еднання пры рэдакцыі Полацкай гарадской газеты «Сцяг комунізма». Свае новыя творы чытае малады байкапісец Валянцін Лукша.

# Акрылёнае юнацтва

П. РУНЕЦ

Гэта было ў канцы ліпеня 1953 года. У кабінет начальніка аддзела кадраў цвікавага завода «Інтэрнацыянал» зайшоў невысокі, хударлявы юнак, прывітаўся і падаў паперку.

— Значыць, токар, — сказаў начальнік, прагледзеўшы дакументы. — Гэта вельмі добра. Такія людзі нам патрэбны. Вось толькі куды цябе паслаць?

Пачуўшы гэтыя словы, Анатоль захваляваўся: ён скончыў рамеснае вучылішча і яму вельмі хацелася працаваць па спецыяльнасці — токарам. Начальнік аддзела кадраў, нібы ўгадаўшы яго жаданне, сказаў:

— Накіроўваю цябе ў шурупны цэх. Зайдзі да намесніка начальніка цэха Івана Іванавіча Мачалава, ён табе аб усім раскажа.

Анатоль развітаўся і пайшоў шукаць Мачалава. Сустрэў яго ў прахадной будцы.

— Я да вас, Іван Іванавіч, — нясмела пачаў юнак.

— А што табе трэба, малады чалавек? — спыніўся Мачалаў.

Анатоль падаў накіраванне. Іван Іванавіч разгарнуў паперку, прабег яе вачыма, і яго немалады чыста паголены твар асвяціўся прыветнай усмешкай.

— А, Захарэнка! Ведаю, ведаю, — лагодна загаварыў ён.— Неяк маці мне казала, што ты вырашыў працаваць на нашым заводзе. Малайчына, што не цураешся родных мясцін! — пахваліў хлапца Мачалаў. — Хадзем у цэх, пакажу, дзе ты будзеш працаваць.

Па дарозе Іван Іванавіч паглядваў на Захарэнку і думаў: «Як хутка ідзе час! Ці даўно ён быў хлапчуком, бегаў у школу. А цяпер, глядзі, мужчына, рабочы, токар! Вучылішча скончыў паспяхова... І з выгляду — сур'ёзны... Ды такія і не могуць быць ветрагонамі»... Старому майстру ўспомнілася, што ён чытаў пра гераічны ўчынак гэтага юнака ў вядомай кнізе «Ніколі не забудзем».

...У шэры восеньскі дзень 1943 года ў іхнім гарадку спыніліся нямецкія танкі. Адзін з іх стаяў на рагу вуліц Леніна і Луначарскага. Мінула некалькі гадзін, і цяжкая фашысцкая машына ўзляцела ў паветра. Гэтага «тыгра», як пасля даведаўся Іван Іванавіч, узарваў дзесяцігадовы хлапчук Анатоль Захарэнка, які падклаў пад яго магнітную міну.

«Не, такія абы як працаваць не будуць», — падумаў пра сябе Іван Іванавіч.

Яны прайшлі прасторны заводскі двор, мінулі механічны цэх і ўвайшлі ў шурупны. У памяшканні чуўся прыглушаны гул матораў, мернае перастукванне станкоў-аўтаматаў, шоргат жалеза. Мачалаў падвёў Анатоля да станка, які стаяў воддаль ад другіх, ля акна, і сказаў:

— Гэта тваё рабочае месца. Заўтра к васьмі прыходзь на работу.

Вышаўшы з цэха, Анатоль міжволі спыніўся. Ну, вось юнацтва і скончылася, пачыналася сталасць. Наперадзе — самастойная работа, новыя людзі, новыя справы і клопаты. Што яго чакае на новым месцы? Ці здолее ён зжыцца з людзьмі, падружыцца? «Нічога, усё будзе добра», — вырашыў ён і азірнуўся. У вочы кінулася срабрыстая істужка Дняпра, і ў сэрцы юнака заварушылася рыбацкае пачуццё: нястрымна пацягнула на раку. Праз некаторы час ён плыў па Дняпру, любуючыся яго веліччу і прыгажосцю.

Назаўтра Захарэнка прышоў у цэх на хвілін пятнаццаць-дваццаць раней. Яго сустрэў малады токар Алег Бабчонак. Ён быў крыху вышэйшы ростам і, мяркуючы па ледзь прыкметных маршчынках на ілбе, старэйшы за яго. Прывіталіся, загаварылі. Алег трымаўся проста, ветліва. Калі Анатоль хацеў нешта сказаць пра сваё прызначэнне, той махнуў рукою і па-прасцяцку заўважыў:

— Усё ведаю. Іван Іванавіч расказаў, — і, падумаўшы, жартаўліва дадаў: — Ну, што-ж, будзем разам працаваць. Я пазнаёмлю цябе са станком.

І хоць тое, пра што расказваў Алег, было вядома Анатолю, ён слухаў уважліва. Сваёй абыякавасцю не хацеў пакрыўдзіць таварыша, які спадабаўся яму з першай сустрэчы.

Да абеду працаваў Алег — выточваў нейкую шасцярню, Анатоль стаяў збоку і пільна прыглядаўся да яго работы. Пазіраючы на яго размераныя, упэўненыя рухі, на дакладнасць, з якой той выконваў тую ці іншую аперацыю, ён з захапленнем і зайдрасцю думаў: «Хутка і спрытна працуе. Ці будзе так слухаць мяне станок, як слухае яго?» І тут-жа ўпэўнена адказаў: «Будзе!»

У час абедзеннага перапынку хлопцы выйшлі на двор.

— Чаго ты кульгаеш? — спытаў Анатоль.

Алег глянуў на Анатоля сумнымі вачыма і цяжка ўздыхнуў:

— Вайна, братка...

Шчырая, задушэўная гутарка яшчэ больш зблізіла іх. Анатоль адчуў, што ў Алегу знайшоў добрага, чулага старэйшага таварыша. Ад такой думкі лёгка і радасна зрабілася на сэрцы.

Майстар загадаў хлопцам вытачыць некалькі балтоў для станкоў-аўтаматаў. Алег неадкладна ўзяўся за справу. Работа была нескладаная, і ён умомант справіўся з ёю. Канчаючы заданне, ён павярнуўся да Анатоля і спытаў:

— Бачыў, як я рабіў?

— Бачыў.

— Дык станавіся і паспрабуй вытачыць сам. А я пагляджу.

Вытачыць болт — штука не хітрая. Але ці зробіць ён так добра, як Алег? Зірнуўшы на Алега і ўбачыўшы яго спагадлівы позірк, Анатоль нічога не сказаў і ўзяўся за работу. Ён узяў кавалак жалеза, уставіў яго ў патрон, замацаваў, падвёў разец і, уключыўшы станок, пачаў працаваць. Здаецца, простая і знаёмая справа, а пакуль вытачыў два балты, аж узмакрэў.

Прымаючы ад новага сябра работу, Алег коратка кінуў: «Добра». І гэтае скупое «добра» многа сказала анатолеваму сэрцу.

Ішлі дні. Захарэнка працаваў самастойна, рабіў балты, выточваў утулкі, кулачкі і іншыя дэталі. З кожным днём работа ўскладнялася.

Не ўсё ішло роўна і гладка. Часам ламаліся разцы, псаваліся дэталі. У такіх выпадках на выручку заўсёды прыходзіў Алег. Ён умеў і расказаць, і паказаць, і дапамагчы, і падтрымаць у рашучую хвіліну. Так было, напрыклад, з праверкай шнекаў. Анатоль баяўся брацца за гэтую работу. Калі аб гэтым даведаўся Алег, ён рашуча падбадзёрыў:

— Бярыся. Рана ці позна табе-ж давядзецца гэта рабіць?

— Вядома, так,—згадзіўся Анатоль. — А раптам у мяне не атрымаецца? Тады што?

— Не палохайся, — казаў Алег. — Калі што якое, я дапамагу. Узрываць фашысцкія танкі было табе куды цяжэй, — хітра падміргнуў ён.

Напамінак аб вайне выклікаў у Анатоля рой думак. Ён успомніў грозныя восеньскія дні 1943 года, калі ён узарваў фашысцкі «тыгр». Ён пайшоў на гэта, хоць і ведаў, што, магчыма, давядзецца развітацца з жыццём. А праверка шнека — не падкладванне міны. Дык няўжо ён не справіцца з гэтым заданнем?

І Анатоль узяўся. Ён памятае, як замацаваў шнек, запусціў станок, пачаў апрацоўку. Прыгадаў, як Алег вучыў: «Поспех залежыць ад таго, здолееш ці не здолееш своечасова прытармазіць станок, хутка адвесці разец, каб узяць новую стружку». Хутчэй чуццём, чым разлікам Анатоль улавіў гэты адказны момант і ў час адняў разец. Колькі часу цягнуўся пра-

Токар Анатоль Захарэнка.



Пасля справаздачна-выбарчага сходу ў кастрычніку леташняга года, калі былі ўскрыты сур'ёзныя недахопы ў ідэйна-палітычным выхаванні моладзі нашага калгаса, новавыбраны камітэт сур'ёзна задумаўся над тым, як палепшыць палітычна-масавую работу сярод моладзі.

У вёсцы Сенна ёсць клуб, а ў Купіску, дзе знаходзіцца цэнтр калгаса, — хата-чытальня. Мы пачалі з таго, што ўзялі іх пад свой камсамольскі кантроль. Адразу-ж перагледзелі склад савета клуба і хаты-чытальні, і ў яго рэкамендавалі лепшых камсамольцаў — энтузіястаў грамадскай работы. У трэцяй брыгадзе пры клубе па ініцыятыве Аляксандра Рубанца і іншых камсамольцаў стварылі мастацкія гурткі — драматычны і харавы. У харавы гурток увайшлі спявачкі Ліза Сланеўская, Валянціна Казец, Вера Лыман і другія. Іх першыя-ж выступленні спадабаліся вяскоўцам. Хутка мастацкі калектыў пачаў рабіць выезды ў іншыя брыгады, а потым і ў суседнія калгасы.

Неяк у гутарцы з загадчыкам хаты-чытальні Уладзімірам Сідам сакратар брыгаднай камсамольскай арганізацыі Мікола Кохан сказаў:

— Вам, таварышы з Купіска, варта было-б падцягнуцца...

Але Сіда не разгубіўся:

— А ў нас будуць не толькі песні ды танцы, але і яшчэ нешта, больш цікавае!..

І сапраўды, хутка ў Купіскай хаце-чытальні з'явілася новае: спартыўныя гурткі. Іх з ахвотай наведвала моладзь. Знайшліся свае аматары валейбола, гарадкоў, веласіпеднага спорту, свае бегуны і гімнасты. Неўзабаве згуртавалі футбольную каманду на чале з Сяргеем Аляшкевічам.

Праўда, і сенненскія камсамольцы не адсталі. Яны таксама падабралі сабе добрых футбалістаў. Праўленне закупіла неабходны спартыўны інвентар і нават спартыўную форму для абедзьвух каманд. За Нёманам, у маляўнічай мясціне, моладзь абсталявала стадыён. Там і сустракаюцца калгасныя футбалісты.

Зразумела, што нам цяпер лягчэй стала працаваць з моладдзю. Цікава, што нават старыя, прыглядаючыся, як моладзь праводзіць свой адпачынак, пачалі забываць дарогу ў царкву.

Можна пахваліцца нашымі фізкультурнікамі. Яны паспяхова адстойваюць спартыўны гонар калгаса. Марыя Веяўнік, напрыклад, заняла першае месца ў спаборніцтве сярод веласіпедыстаў вобласці, наша зборная футбольная каманда ўзнагароджана пераходным прызам раённага камітэта фізкультуры і спорту.

Весела і карысна праводзіць моладзь свой адпачынак у клубе і ў хаце-чытальні. Тут ёсць більярд, шахматы, даміно. Хто жадае, можа заўсёды пачытаць свежую газету. Да паслуг моладзі — калгасная бібліятэка. Апрача таго, дзейнічаюць тры бібліятэчкі-перасоўкі, на ферме абсталяваны чырвоны куток. Часта чытаюцца ў нас лекцыі і даклады, а таксама дэманструюцца кінокарціны. Калгаснікі любяць і ахвотна наведваюць кіно. Звычайна, перад сеансам выступае хто-небудзь з агітатараў і праводзіць якую-небудзь цікавую гутарку.

Мы пераканаліся: тыя-ж танцы ці спеўкі можна арганізаваць так, што яны прынясуць задавальненне і радасць моладзі. Звычайна, калі хлопцы і дзяўчаты наважаць пагуляць, запрашаюць гарманіста, і камсамольцы ідуць на пагулянку. Камітэт намячае якое-небудзь сваё мерапрыемства, гутарку ці даклад, і вечар праходзіць карысна і цікава.

З кожным годам мяняецца аблічча нашых вёсак, калгаснае жыццё становіцца багацейшым і прыгажэйшым. У святы, на вечарынкі моладзь прыходзіць у прыгожых касцюмах і сукенках. Звычайным стала, што вясковыя хлопцы і дзяўчаты носяць наручныя гадзіннікі, да клуба прыязджаюць на сваіх веласіпедах. Але бывае падчас і так, што, маючы добрыя абновы, асобныя з дзяўчат не ўмеюць проста, але прыгожа і з густам апранацца, у пагоні за крыклівай модай псуюць сабе прычоскі, бровы. Дагэтуль на такія «дробязі» члены камітэта не звярталі ўвагі. А між тым, гэта не дробязі, а важнае пытанне эстэтычнага выхавання моладзі. Цяпер мы на эстэтычныя тэмы праводзім гутаркі, даклады, імкнемся ў кожнага маладога чалавека выхаваць добры густ, правільнае разуменне прыгожага.

Наша моладзь цяпер не спраўляе рэлігійных абрадаў, не ходзіць у царкву. Але гэта не азначае, што нам не трэба праводзіць атэістычную прапаганду. Яшчэ часам здараецца, што брыгадзір дае нарад якому-небудзь Пецю ці Ваню ісці на працу, а ён адказвае:

— Сёння-ж у нас сёмуха...

Былі ў нас выпадкі, калі маладая дзяўчына, выходзячы замуж, вянчаецца ў царкве. Камсамольская арганізацыя цярпліва растлумачвае, што так паступаць не да твару савецкаму маладому чалавеку. Калі-ж, скажам, такі ўчынак дапусціць камсамолец, яго паводзіны абмяркоўваем на бюро і на сходзе.

Клапоцячыся аб пашырэнні сувязі з моладдзю, члены камітэта выкарыстоўваюць і такую форму, як пасяджэнні камітэта ў дамах, дзе па вечарах збіраюцца хлопцы і дзяўчаты. Нярэдка ў часе такіх задушэўных гутарак выяўляюцца жадаючыя ўступіць у рады Ленінскага камсамола. Гэтыя маладыя людзі потым становяцца добрымі грамадскімі работнікамі.

Яшчэ нядаўна малады калгаснік Пётр Хілько быў адарваны ад перадавой моладзі. Ён мог пасябраваць з якім-небудзь п'яніцам, сам напіцца, а потым пайсці па вуліцы, грубіяніць і спяваць вульгарныя частушкі. З Пятром не аднойчы гутарылі камсамольскія актывісты. Ён абяцаў улічыць заўвагі і парады, але мала чым змяняўся да лепшага. Аднойчы-ж ён заявіў:

— Што вы да мяне маеце? Я-ж не камсамолец.

— А вось выправіш свае паводзіны, будзеш сябе паводзіць, як усе хлопцы, — і ў камсамол прымем, — сказалі яму.

Прыйшлі аднаго разу да Пятра Кулеш Пракоп і Койдак Надзя — члены камітэта камсамола. Пётр якраз гуляў з хлопцамі ў карты. Загаварылі аб камсамоле, аб тым, чым сёння жывуць камсамольцы калгаса. Нахмурыўся Пётр, але слухаў іх уважліва. Было прыкметна, што юнак хвалюецца. А дні праз два Пётр заявіў аб сваім жаданні быць разам з намі. Неўзабаве камсамольская арганізацыя прыняла Хілько ў члены ВЛКСМ. Цяпер ён добра працуе ў калгасе, акуратна наведвае камсамольскія сходы, рэгулярна плаціць членскія ўзносы, актыўна ўдзельнічае ў спартыўных гульнях.

Такія прыклады не адзінкавыя. Юнакі, якія яшчэ нядаўна цураліся вялікіх спраў, горнуцца да грамадскага жыцця, уліваюцца ў нашу дружную, камсамольскую сям'ю.

Выкарыстоўваючы разнастайныя формы работы і сувязі з моладдзю, камсамольская арганізацыя нястомна выхоўвае лепшыя рысы маладога будаўніка камунізма, гарачага патрыёта сваёй маці-Радзімы.

**Весела праводзіць свой вольны час моладзь калгаса «Вялікі Кастрычнік».**
Фото М. Мінковіча.





# Зялёная лабараторыя

Там, дзе некалі быў камяністы пустыр, цяпер раскінуліся багатыя, зялёныя палеткі. Школьны ўчастак мае палявы, гародны, заалагічны і калекцыйны аддзелы, а таксама кветнік, ягаднік, пасеку, плодагадавальнік і парнікі. Для вучняў малодшых класаў вызначаны асобныя дзялянкі. Пасярод зроблена пляцоўка — «зялёны клас», дзе праводзяцца ўвосень і ўвесну ўрокі па батаніцы.

У маладым школьным садзе многа яблынь, ігруш, сліў, вішань новых палепшаных гатункаў; ёсць 60 кустоў вінаграду. Юныя садаводы вучацца рабіць прышчэпкі, старанна даглядаюць пладовыя дрэўцы. За некалькі год школа вырасціла для калгаснікаў больш 5 000 саджанцаў, 300 кустоў агрэсту і парэчак.

На роўных, з любоўю дагледжаных градках расце рознастайная гародніна. Тут новыя, высокаураджайныя гатункі памідораў, больш дзесяці відаў белакачаннай капусты, сталовыя буракі, гарбузы, гуркі, цыбуля, морква, бручка... Прыжыліся і добра сябе адчуваюць поўднёвыя культуры — кавуны і дыні.

Радуюць вока высачэзныя, да трох метраў, сцяблы кукурузы. Звяно юных кукурузаводаў на чале з комсамолкай Аленай Хвалікоўскай паставіла сваёй мэтай вырасціць гібрыднае насенне гэтай каштоўнай культуры. Кукуруза была пасеяна на асобнай дзялянцы. Юннаты выкарысталі ўсе мерапрыемствы, прадугледжаныя перадавой агратэхнікай, і цяпер упэўнены, што высокі ўраджай будзе. У наступным годзе падшэфны калгас імя XIX партз'езда атрымае насенне высокаўраджайнага мясцовага гатунку кукурузы.

Праводзячы рознастайныя цікавыя доследы і назіранні, юныя мічурынцы штогод атрымліваюць багаты ўраджай збожжавых, тэхнічных культур, гародніны. Іх нястомная праца і пошукі новага заслужана адзначаны. Школа другі год з'яўляецца ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Сёлета трыццаць юннатаў школы дэманструюць свае дасягненні ў Маскве, на выстаўцы.

У кастрычніку, калі заканчваюцца асеннія работы, школа, як заўсёды, справіць Свята ўраджаю. На школьнай выстаўцы будзе паказана ўсё лепшае, што вырашчана працавітымі натуралістамі. Яе будуць аглядаць з задавальненнем не толькі ўсе вучні, але і настаўнікі суседніх школ, бацькі-калгаснікі.

— Добрая расце ў нас змена. Сапраўдныя пераўтваральнікі прыроды! — шчыра скажуць яны.

На здымках: На Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы: (уверсе) каля экспанатаў — «Сельскагаспадарчыя культуры, вырашчаныя на вучэбна-доследным участку»; (унізе) каля стэнда 2-й Пружанскай сярэдняй школы ў павільёне «Юннаты».

**Ал. ВЕЧАРКОЎ.**

Фота Р. Дыямента.





# Пясняр совецкай Радзімы

**Да пяцідзесяцігоддзя Пятра ГЛЕБКІ**

Трыццаць гадоў назад у беларускім перыядычным друку з'явіліся першыя вершы Пятра Глебкі. Шчырыя, задуменныя, яны яскрава гаварылі пра тое, што ў нашу літаратуру ідзе ўдумлівы і вельмі патрабавальны да сябе мастак. Паэзія Пятра Глебкі была народжана подыхам вялікага Кастрычніка, хвалюючымі падзеямі новай, совецкай явы. Голас маладога паэта, прасякнуты глыбокім роздумам аб мінулым і сённяшнім нашага народа, аб светлай яго будучыні, выразна вызначаўся ў суладным шматгалосным хоры маладой совецкай паэзіі.

Магчыма, раннім вершам П. Глебкі яшчэ крыху не хапала палымянай мэтанакіраванасці, магчыма, падчас гучала ў іх захапленне адарванай ад жыцця прыгажосцю, але такія вершы былі данінай настрою, які валодаў паэтам вельмі нядоўга. Пройдзе невялікі час, і паэзія Пятра Глебкі, мужная і смелая, на поўныя грудзі ўбярэ ў сябе магутную плынь совецкага жыцця, нашых велічных спраў:

Няхай жыццё мой сціплы верш
Густымі сокамі напоіць,
Няхай у стройным тканні жыл
Жывая кроў людзей заб'ецца, —
Тады ён толькі будзе жыць
І хваляваць людскія сэрцы.

Свайго росквіту, сваёй сапраўднай сталасці паэзія Пятра Глебкі дасягае ў бурныя, велічныя гады будаўніцтва і перамогі соцыялізма ў нашай краіне. Творы паэта, напісаныя ў гэты час, вызначаюцца партыйнай прынцыповасцю, палітычнай завостранасцю, дасканалай паэтычнай формай. Паяўляюцца такія кнігі П. Глебкі, як «Хада падзей» (1932), «Чатыры вятры» (1935), яго паэмы «Мужнасць» і «У тыя дні», драматызаваная паэма «Над Бярозай-ракой».

Паэт — грамадзянін і гаспадар сваёй неабсяжнай Радзімы — апявае радаснае жыццё калгаснай вёскі, небывалыя ўраджаі, што збіраюцца на арцельных палях, магутную хаду індустрыяльнага будаўніцтва ў краіне, узрастаючую з кожным днём магутнасць вялікай совецкай дзяржавы. Шмат працулых радкоў прысвячае паэт справам нашай моладзі, тым шырокім шляхам і дарогам, якімі яна ідзе ў жыццё («Эма», «Вясёлыя песні», «Дзяўчына совецкай краіны», «Экзотыка», «Вернасць» і г. д.).

Найбольшае гучанне ў паэзіі П. Глебкі атрымоўвае тэма Радзімы, тэма Кастрычніцкай рэволюцыі, Комуністычнай партыі, якая прывяла нашу краіну, наш народ да велічных перамог. Паэт, удумлівы гісторык і філосаф, у сваіх цудоўных творах «У тыя дні», «Над Бярозай-ракой» паэтызуе незабыўныя грозныя дні рэволюцыі, гeроіку і рамантыку грамадзянскай вайны. У паэме «Мужнасць» П. Глебка ствараe вобраз генія нашай рэволюцыі, вялікага правадыра народаў В. І. Леніна.

Пятро Глебка быў адным з першых беларускіх паэтаў, які плённа, творча вучыўся на лепшых узорах паэзіі В. Маякоўскага. Яго творы на тэму аб рэволюцыі, аб мужнасці нашага народа, аб слаўнай Комуністычнай партыі і яе правадыру В. І. Леніне, аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне здзіўляюць нас выключнай адпаведнасцю зместу паэтычнай форме. У гэтых творах мы нібы на слых успрымаем жалезны поступ рэволюцыі, чаканны крок слаўных абаронцаў Радзімы, магутны пульс жыцця.

На новую ступень узнялася паэзія П. Глебкі ў суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Голас паэта-патрыёта быў пачуты воінамі на франтавых дарогах, слаўнымі народнымі мсціўцамі партызанскіх атрадаў на часова захопленай ворагам беларускай зямлі. Яго лепшыя вершы ваеннага часу «Дзяўчыне з Клімавіч», «Родны хлеб», «Смерць салдата» перапісваліся ад рукі, завучваліся на памяць, спяваліся як песні.

Цікавыя творы аб нашых пасляваенных буднях, аб барацьбе совецкага народа за мір і дружбу паміж народамі напісаны паэтам у пасляваенны перыяд. Творчасць П. Глебкі з'яўляецца значным укладам у беларускую паэзію. Яна ўзбагаціла яе новымі тэмамі, ідэямі, новымі рытмамі, умелым спалучэннем напеўнай інтанацыі народнага верша з аратарска-трыбуннымі інтанацыямі. Творчая работа П. Глебкі над паэтычным словам. мовай верша — прыклад для маладых паэтаў і пісьменнікаў.

П. Глебка вядзе вялікую грамадскую і навуковую работу. з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР. Выступае П. Глебка і як літаратурны крытык.

Паэт знаходзіцца зараз у росквіце сваіх творчых сіл. У яго яшчэ багата неажыццёўленых творчых задум. Горача верым, што гэтыя задумы выльюцца ў новыя цудоўныя вершы, паэмы, драмы.

**Н. ЯКАЎЛЕЎ.**



# Над ціхай Віццю

Іван НАУМЕНКА

Апавяданне

Мал. Г. Паплаўскага.

I

Юрка ехаў на рачулку Віць, на балотную гідраметстанцыю, куды яго накіравалі працаваць пасля заканчэння тэхнікума. Ён злез з пасажырскага поезда ў Бабінавічах, і толькі паспеў паставіць куфэрак на платформу, як паравоз свіснуў і вагоны паплылі далей. Дарогі да Віці Юрка не ведаў.

На лавачцы каля станцыйнага памяшкання сядзела тры дзяўчыны. Яны лушчылі гарбузікі і, не хаваючы сваёй цікаўнасці, ва ўсе вочы разглядалі хлапца.

Юрка вагаўся — ісці да дзяўчат ён не адважваўся. Але паратунку не было, трэба было ў каго-небудзь спытаць пра дарогу.

Хлопец выцер хустачкай узмакрэлы твар і падышоў да дзяўчат. Бялявенькая, што сядзела з самага краю, хіхікнула і адвярнулася за спіну суседкі.

— Сціхні, Люська, не люблю. — Люсіна суседка злёгку штурхнула дзяўчыну. Яна, відаць, была старэйшая і сур'ёзна паглядала на Юрку.

— Ад вадакачкі трубы да Віці пракладзены, — тлумачыла яна. — Таму да самай рэчкі насып ідзе, ён ляжнёўкай называецца. Толькі цяпер ваду не пампуюць...

— Не пампуюць? — перапытаў хлопец.

— Вадакачка-ж не працуе цяпер. Да вайны тут завод быў, цягнікоў многа станавілася. Угнаенні тут выраблялі.

— Апеціты, — уставіла Люська і засмяялася.

— Ды не крыўляйся ты. Не апатыты, а фасфарыты...

Юрка пайшоў. Ляжнёўка з двух бакоў была абсаджана дрэвамі, і хлопец ішоў па ёй, як па калідоры. Праз колькі часу зялёная сцяна скончылася, і насып быў пракладзены проста па лесе. Над просекай разгалістымі шатамі навісалі грабы і бярозы. Патыхала настоеным водырам прэлага лісця і сырой лясной зямлі.

Юрка ўжо колькі разоў перакладаў куфэрак з правай рукі ў левую, а канца ляжнёўцы ўсё не было.

Нарэшце лес скончыўся, і ляжнёўка пайшла сенажаццю. Адсюль хлопец убачыў і метэаралагічную станцыю. Яна была амаль ля самай рэчкі. Домік станцыі быў драўляны і высокі, нібы двухпавярховы.

Хлопец нейк наперад не думаў, якой будзе гэтая станцыя. Яшчэ ў тэхнікуме, калі студэнты здавалі выпускныя экзамены, будучыня ўяўлялася крыху інакшай. Юрка, як і яго сябра Сымон Баравік, у тэхнікум прышоў з дзетдома. Ён не вельмі думаў пра работу — неяк-жа ўсё ўладзіцца. Але сябры іншы раз размаўлялі пра будучыню. Тон у такіх гаворках заўсёды задаваў Сымон. Ён гаварыў, што іх, можа, пашлюць за палярны круг, на ільдзіну, да іх будуць прылятаць самалёты, будуць пісаць у газетах, і іншы раз Юрка, хоць гэтага ён ніколі і не гаварыў услых, уяўляў сябе ў ролі выратавальніка многіх людзей, якіх недзе ў моры насцігла бура, і толькі ён адзін заўважыў небяспеку. Да яго падыходзяць удзячныя людзі, кожны хоча сказаць яму нешта асаблівае. А ён? А што ён, ён толькі споўніў свой абавязак...

Атрымалася не так. За палярны круг, неогул, не паслалі нікога. Праўда, Сымона накіравалі ў цікавае месца — у Уладзівасток, мабыць, да маракоў. Такіх-жа, як Юрка, было таксама шмат — каго паслалі на самыя звычайныя метэаралагічныя станцыі. Ва ўпраўленні хвалілі Пеўніка, загадчыка метстанцыі на рачулцы Віці.

— Юрый Іванавіч, галубчык, — пачуў раптам Юрка прыемны і нібы здаўна знаёмы голас. Ён азірнуўся і ўбачыў нізенькага, лысага чалавечка, які, пакінуўшы веснічкі адчыненымі, бег яму насустрач. «Мой загадчык Пеўнік», — падумалася хлопцу.

Пеўнік, не пытаючыся, узяў з юркавых рук куфэрак, паставіў яго на траву і ўсё падскокваў, мітусіўся і дакараў Юрку за тое, што ён не адбіў тэлеграмы, калі выязджаў з упраўлення.

Дворык станцыі быў вельмі прыгожы і спадабаўся Юрку з першага позірку. Пасыпаная белым рачным пяском дарожка вяла да веранды, спавітай зелянінай дзікага вінаграду. Пад яблынямі ў садку стаялі выструганыя падпоркі, бо голле аж угіналася пад цяжкасцю праспелых пепінак.

— Які-ж вы нядобры, — прывітала Юрку ладная з выгляду гаспадыня. — Пеця аж тры разы на станцыю ездзіў, а вас усё няма. Будзем знаёмы — Вольга Апалонаўна...

Пеўнік у прысутнасці жонкі не мітусіўся, маўчаў і толькі неяк бездапаможна шморгаў носам. У пакойчыку ўсё было прыбрана вельмі чыста, і Юрка з непрывычкі не ведаў, куды сесці. Быў ужо надвячорак. Чырвоныя праменні заходзячага сонца прыгожа аздаблялі ціхі поўзмрок кватэры, на сцяне павольна адбіваў секунды старамодны гадзіннік з драўлянай зязюляй наверсе. У гадзінніку раптам нешта зашыпела, зашоргала, і ён, па-старэчаму, нібы кашляючы, пачаў адбіваць гадзіны. Юрка налічыў дзевяць удараў.

— Пеця, прыгані карову, — сказала гаспадыня. — Авечкі няхай паходзяць яшчэ...

Пеўнік надзеў кепку і хуценька паімкнуўся на двор.

Вечарам пілі чай з малінавым варэннем, якое Вольга Апалонаўна прынесла аднекуль з кладоўкі. За чаем гаварыла адна гаспадыня. Яна расказвала пра работу станцыі, і з гэтай гаворкі вынікала, што без Вольгі Апалонаўны станцыя проста не змагла-б існаваць. У той-жа вечар, не саромячыся, Вольга Апалонаўна расказала і пра тое, як спачатку яна не хацела ісці за Пеўніка, які быў удаўцом, ды яшчэ і старым, і як, перадумаўшы, яна ўсё-ж зразумела яго і пайшла за яго замуж.

— А цяпер жывем, як людзі, і не крыўдзімся адно на аднаго, — Вольга Апалонаўна пагладзіла Пеўніка па голаму, нібы калена, цемю. — Маем усё, што трэба — піць, есці і на людзі не сорамна паказацца. Праўда, Пеця?

Пеўнік прамармытаў у адказ нешта невыразнае і пабег у другі пакойчык перадаваць зводку.

Пеўнік дазволіў Юрку пакуль што знаёміцца з прыборамі і прыглядацца да работы. Хлопец за два дні агледзеў псіхраметрычную будку, глебавыя тэрмометры, гелографы і самапішучыя прыборы. Апараты былі ўсе новыя, і хлопец міжвольна ўспомніў свой тэхнікум — там былі такія самыя. Пеўнік работу паставіў умеючы, і Юрка дзень за днём пранікаўся ўсё большай павагай да свайго начальніка. Зводак за дзень перадавалася багата — гідралагічных, мікракліматычных, сінаптычных. Пеўнік бегаў да тэлефона бадай кожныя дзве гадзіны. Вольга Апалонаўна на станцыі не рабіла нічога.

Праз тыдзень Юрка стаў на работу. Яка яму не здалася цяжкай — у тэхнікуме іх вучылі большаму. Праз колькі дзён вярнуўся з водпуску трэці работнік. Дзямідзюк, які жыў у Бабінавічах.

Калі выпадала вольная часіна, Юрка аглядаў навакольныя мясціны. Ён хадзіў уздоўж звілі-

Соўгас «Сулукульскі» Сяміазёрнага раёна Кустанайскай вобласці. Трактарная брыгада імя XVIII з'езду комсамола Беларусі.



цоўныя дні і ночы? Можа, Ліля мела рацыю — ён раскаецца, ды позна будзе? А што, калі-б яму прапанавалі вярнуцца назад, у Мінск?

Рыгор падыходзіў да акна і доўга глядзеў, як вецер гоніць калючую пазёмку па бяскрайняй роўнядзі, на якой зачапіцца воку няма дзе, на рэдкія прысадзістыя поўзямлянкі-поўдамкі казахскага аула і ў каторы раз адказвае на свае думкі: — Не, не здолеў-бы пакінуць! Сэрца горнецца да гэтых стэпаў. Можа бяскрайнасць іх зачаравала душу? Вялікае, гарачае жаданне ўбачыць у стэпах гэтых гарады, каласістыя нівы? Але гэта пакуль мара такіх, як ён, энтузіястаў. Няўжо-ж можна так палюбіць мару?

Аказваецца, можна.

Даўняе рыгорава жаданне спраўдзілася: ён паспяхова скончыў вячэрнія курсы трактарыстаў. Экзаменацыйная камісія прысвоіла яму кваліфікацыю трактарыста другога класа. У стэп, на цаліну, ён выйшаў на новым дызельным трактары.

## 3

У разгар сяўбы ў брыгадзе адбылося незвычайнае здарэнне: старшая трактарыстка з КД-35 Галя Астапенка, працуючы ў начную змену на дыскаванні, зрабіла вялікую аварыю. Атрымалася гэта так. Перацерлася трубка, якая ідзе ад масляная магістралі да манометра. Хвіліна-другая, і масла ў картэры не засталося — масляная помпа выкідвала яго наверх. Стрэлка манометра пайшла ўніз і замёрла на аварыйнай рысачцы «стоп». Стомленая дзяўчына не звяртала ўвагі на манометр і працягвала працаваць. Пачуўшы рэзкі стук у маторы, Галя спыніла трактар, але было позна — укладышы шатунных падшыпнікаў выйшлі са строю.

Вінавата апусціўшы галаву сядзела Галя на комсамольскім сходзе. Усведамленне ўласнай віны прыгнятала яе. Гэта-ж не жарты — вывесці трактар са строю, ды яшчэ ў час сяўбы! Не, яна не скажа ў сваё апраўданне пра тое, што другія суткі працавала без змены, што ад гарачыні і пылу кружылася галава, што ад доўгага сядзення за рычагом ламала спіну і балелі рукі. Гэта не апраўданне. Не адна-ж яна так працуе. А ўсё-такі ў глыбіні душы цяплілася хоць слабая надзея на не вельмі суровае асуджэнне яе ўчынку. З кожным магло гэтак здарыцца. Ды сябры, якія гэтак асуджаючa на яе пазіраюць, усё-ж такі не чужыя, а як-бы родныя. Хіба ў няшчэрпны мароз яна не поруч з імі была ў стэпу? Хіба не яна поплеч з Рыгорам, які зараз стараецца нават і не глядзець у яе бок, раскідвала ля варот кашары халодныя зляжалыя камлыгі снегу? А хлопцы-ж намнога дужэй за яе.

Пасля рабочага дня на палявым стане трактарнай брыгады імя XVIII з'езду комсамола Беларусі.



Комсамольцы выступалі па-рознаму. Праўда, віны з яе ніхто не здымаў, але ўсё-такі большасць з іх глядзела на аварыю, як на простую выпадковасць. Узяў слова і Рыгор Квач.

— Большасць комсамольцаў, — сказаў ён, — прычыну аварыі бачаць у выпадковасці, а вось я бачу яе ў нядбайнасці і толькі. У абыходжанні з тэхнікай не можа быць выпадковасцей. Каб замацавала Галя трубку, дык яна не вібрыравала-б, а значыцца, і не перацерлася-б. Якая-ж тут выпадковасць?

Рыгора падтрымалі. За зробленую аварыю Галю Астапенка пазбавілі права вадзіць трактар. Дзяўчына вельмі цяжка перажывала гэта. Яшчэ нядаўна ў палявым стане толькі і чуцён быў яе голас: то яна спявае, то смяецца. А цяпер, сцішаная і задумлівая, яна доўга сядзіць дзе-небудзь у стэпу. Пасля комсамольскага сходу Галі прапанавалі выбраць агрэгат і працаваць прычэпшчыцай. Але яна, — ні блізка.

— Не пайду я на прычэп, дый годзе, — сказала, крутнулася і пабегла ў стэп.

Рыгор вяртаўся ад трактара ў палявы стан брыгады. Вечарэла. Праходзячы каля перасохлага ручая, ён пабачыў ля яго Галю. Уткнуўшыся тварам у малады, шаўкавісты кавыль, яна плакала. Ад неспадзяванасці ўбачыць тут Галю Рыгор разгубіўся: стаяў, глядзеў на галіны плечы, якія ўздрыгвалі, і не ведаў, што рабіць.

— От, не спадзяваўся пабачыць цябе ў слязах, — нарэшце вымавіў ён. Яна ўзняла заплаканы, з прыпухлымі ад слёз вачыма твар, змерыла яго позіркам і парывіста са злосцю кінула:

— І не дачакаешся... Падумаеш, сабраліся ўсе ідэальныя — выпадковасцей няма... «Нядбайнасць», — перадражніла яна Рыгора і, выцершы слёзы, адвярнулася. Рыгор прысеў поруч. «І праўда, — думаў ён, — насварыліся на дзяўчыну, адабралі трактар і пакінулі. А яна-ж яшчэ амаль школьніца. Ну, колькі ёй — не больш восемнаццаці год. Нядобра». І яму захацелася сказаць ёй нешта пяшчотнае, супакоіць, як пакрыўджанае дзіцянё. Не звяртаючы ўвагі на яе злосць, Рыгор спытаў:

— Дык чаго ты, Галя?

Дзяўчына адчула ў ягоным голасе гэтулькі цеплыні і спагады, што неяк адразу супакоілася і, уздыхнуўшы, сказала:

— На прычэп пасылаюць. А я не пайду. Крыўдна, смяяцца ўсе будуць.

Рыгор глядзеў на заплаканую і панылую ў сваім горы дзяўчыну і на момант, нечакана для самога сябе, параўнаў яе з Ліляй — і тая, далёкая, здалася яму вельмі-ж непатрэбнай.

— Ісці давядзецца, Галінка, — сказаў ён ласкава. — І, калі хочаш, пойдзем да мяне. Я кпіць не буду ды і іншым не дазволю, — рашуча дадаў ён.

На другі дзень з ранку яна ўжо была каля плугоў. Удваіх з Рыгорам яны змазвалі колы.

## 4

Другія суткі Рыгор працаваў без змены. За гэты час ён адпачываў не больш трох гадзін. Адчуўшы стому і баючыся, каб не заснуць за рычагамі, ён вырашыў заглушыць матор. Але Галя папрасіла:

— Ты, Грыша, ідзі адпачывай, а я папрацую, — і, бачачы, што той маўчыць, дадала: — Ці ты думаеш, што пасля таго выпадку я зусім прапашчы чалавек?

— Не, гэтага я не думаю.

... На момант адарваўшы позірк ад гусеніцы, якая бегла па краю баразны і пабліскавала адпаліраванымі тракамі, Галя раптам заўважыла, як у далечыні па сухім бур'яне амаль без дыму слізгалі языкі полымя. Не, ёй не здалося: агонь шпарка поўз, расцякаючыся з кожнай хвілінай усё шырэй і шырэй. Страшэнная стыхія — пажар у стэпу. Гнанае ветрам полымя ахапляе дзесяткі кілометраў, і там, дзе яно прайшло, застаецца толькі чорны попел. На працягу доўгіх дзён закрывае сонца чорная імгла, а ўночы палыхае, упіраючыся ў нізкія хмары, барвовае зарава. І колькі трэба сілы, каб уціхамірыць стыхію!

У першы момант Галя разгубілася, але, адагнаўшы ад сябе страх, яна вывела з баразны трактар. Трэба было абараць ачаг пажару. Робячы вялікі круг, яна пераканалася, што звесці канцы яго не паспее. Прарваўшыся паміж двума перасохлымі азярынамі і раллёй, яно будзе палыхаць так, што

цяжка будзе спыніць яго. «Закрыць адзінае выйсце агню паміж азярынамі, — мільганула ў галаве ў яе думка, і Галя, крута развярнуўшы трактар, на пятай хуткасці павяла яго да азярын, што віднеліся ўдалечыні.

«Ці паспею я?» — думала яна, шкадуючы, што нельга падбавіць газу — рычажок на сектары быў адцягнуты да канца.

Яна паспела.

Полымя дагнала яе на апошнім дзесятку метраў. Яно лізала гусеніцы, дыхала нясцерпнай гарачынёй у кабіну. Амаль задыхаючыся, Галя вывела трактар на азярыну. Дабегшы да чорнай, свежаўзаранай паласы, агонь устаў на дыбкі і спыніўся. Калі падаспела дапамога, небяспека ўжо мінавала. Галя стаяла, прыхінуўшыся да кабіны, і запэцканымі пальцамі запіхала абгарэлыя косы пад хустку. Саскочыўшы з каня, Рыгор падбег да яе:

— Галінка! Ну, і малайчына ты! — усхвалявана гаварыў ён.

Яна, сарамліва ўсміхаючыся, сказала:

— Ох, і напалохалася-ж я!

Едучы назад, Рыгор нечакана прапанаваў:

— Давай, Галя, будзем разам працаваць.

— Я згодна, — усміхнулася яна.

— Ну, і добра, — радасна падтрымаў яе Рыгор. — А з брыгадзірам я дамоўлюся.

Так Галя стала зноў трактарысткай — рыгоравай зменшчыцай.

— Усё-такі наш Рыгор знайшоў сабе памочніка, — смяяліся хлопцы.

— А хіба благога? — пытаў ён.

— Ды не, вельмі добрага. Баімося толькі аднаго.

— Чаго-ж вы гэтак баіцёся?

— Што на ўсё жыццё застанецца ў цябе ў памочніках.

І праўду-такі казалі хлопцы — увосень згулялі вяселле. Ды яшчэ якое!

### 5

У той вечар клуб быў ярка асветлены і ўпрыгожаны. Ужо заняты былі ўсе месцы, а людзі ўсё ішлі ды ішлі. Нават з далёкіх жывёлагадоўчых пунктаў папрыязджалі рабочыя. Тут былі і чабаны, і сакманшчыкі,* цесляры і кавалі, сенавозы і іншыя работнікі ферм. Павінен адбыцца сход — вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета Казахскай ССР, а таксама ў абласныя і мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных.

Калі Рыгор пачуў сваё прозвішча, адразу неяк не паверыў. «Можа не дачуў?» — падумалася яму. А зала ўжо шумела бурнымі воплескамі. Не, не памыліўся — гэта-такі яго прозвішча было названа ў ліку самых дастойных людзей соўгаса. Гэта на яго скіраваны сотні дружалюбных позіркаў. Гэта пра яго гавораць тыя, што выступаюць, знаёмыя і незнаёмыя людзі. Гарачая хваля ахінула сэрца. Не бачачы нічога перад сабою, ён падыйшоў да трыбуны. Але дзе ўзяць словы, каб выказаць удзячнасць людзям за аказанае вялікае давер'е?

Рознымі шляхамі ідуць у жыцці людзі. Адны выбіраюць пратораныя сотнямі сваіх папярэднікаў — ды ідуць імі. Пражыўшы спакойна месяц, яны ведаюць, што і другі не прынясе ім ніякіх асаблівых турбот. А калі ціха ды добра пройдзе год — такія людзі зусім задаволены сваім жыццём. Жыццёвая перспектыва такіх людзей — ціхі дабрабыт. У іх няма творчых пошукаў, няма вялікіх жаданняў. Нішто не сагрэе душы людзей, якія выбралі сабе гэты шлях.

Другі шлях — цярністы і цяжкі. За кожнай паваротка яго чалавека чакае нязведанае, вялікае. І што-б такі чалавек ні рабіў, вынікам сваёй працы ён бачыць ажыццёўленую мару, у імя якой ён ідзе на пераадоленне цяжкасцей, зносіць любыя нягоды. Па гэтаму шляху крочаць моцныя духам, смелыя. І сярод іх — Рыгор Квач.

**Ак-Кудук,**
**Казахская ССР.**

* Сакманшчык — малодшы памочнік жывёлавода.

# ЛЮДЗІ І КНІГІ

## ГЕНЕРАЛ ПАРЫЖСКАЙ КОМУНЫ

Нядаўна амаль адначасова ў трох розных месцах выйшлі ў свет дзве кнігі і быў надрукаваны артыкул. Адна кніга выйшла ў Ленінградзе, артыкул надрукаваны ў сталіцы Польскай Народнай Рэспублікі Варшаве, другая кніга выйшла ў сталіцы Абхазіі Сухумі.

Ва ўсіх гэтых творах расказваецца аб адным і тым-жа чалавеку — выдатным сыне Беларусі, палымяным рэвалюцыянеру Валерыі Врублеўскім.

Пазнаёмімся з гэтымі творамі.

Асаблівай увагі заслугоўвае артыкул у польскім часопісе «Пшыязнь», напісаны Войцэхам Сулеўскім. Артыкул называецца «Беларускі атрад генерала Комуны» і пераносіць нас у далёкія часы паўстання 1863 года на Беларусі.

«У маі 1863 года, — піша В. Сулеўскі, — праз пяць месяцаў пасля пачатку паўстання на тэрыторыі каралеўства Польскага, па беларускай зямлі праходзіў атрад, які складаўся ў большасці з сялян. Сярод лугоў і лясоў шырока разлівалася баявая песня паўстанцаў. Над атрадам развяваўся блакітны сцяг з чырвоным зямным шарам і пяццю чырвонымі зоркамі — сімвалам перакананняў змагароў. Правадыром атрада быў Валеры Врублеўскі».

Аўтар артыкула адносіць Врублеўскага да ліку выдатных правадыроў студзеньскага паўстання, высока цэніць яго выключную мужнасць, гарачы патрыятызм і бліскучыя ваенныя якасці.

Маюць значную цікавасць біяграфічныя звесткі аб Врублеўскім, якія прыводзіць В. Сулеўскі. Ён піша:

«Нарадзіўшыся ў ваколіцах Слоніма (у мястэчку Жалудок у 1836 годзе. **А. М.**), недалёка ад неабсяжнай Налібоцкай пушчы, Врублеўскі глыбока палюбіў Беларусь, яе непраходныя лясы, ураджайныя палі і працавіты, адважны народ. У доме Валерыя часта ўспаміналі аб дзядзьках-сібіраках, асуджаных на выгнанне за ўдзел у рэвалюцыйных гуртках Шымана Канарскага, якія ўзніклі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 30-х гадах XIX стагоддзя».

Пасля заканчэння школы Валеры вучыўся ў Пецербургу — у Лясным інстытуце. Там ён наладзіў сувязь з групамі рэвалюцыйна настроенай моладзі і стаў членам гуртка Зыгмунта Серакоўскага, які пазней стаў адным з кіраўнікоў паўстання 1863 г. Члены гуртка знаходзіліся пад моцным уплывам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў — Чэрнышэўскага, Дабралюбава, Герцэна. У Пецербургу Врублеўскі сустракаецца і з маладым студэнтам права Кастусём Каліноўскім.

Прыехаўшы на радзіму і пасяліўшыся ў павятовым горадзе Саколка, Врублеўскі пачынае весці актыўную рэвалюцыйную агітацыю.

«Врублеўскі разам з Канстанцінам Каліноўскім, які ў адзенні ткача вандраваў па беларускіх вёсках, сеючы ўсюды слова агітацыі... стварaў на беларускай зямлі сетку падпольных паўстанцкіх арганізацый».

Выдатную ролю ў справе абуджэння рэвалюцыйнага руху на Беларусі В. Сулеўскі адводзіць газеце «Мужыцкая праўда».

Як толькі пачалося паўстанне, Врублеўскі прызначаецца начальнікам штаба паўстання на Гродзеншчыне. Ён арганізоўвае ў Саколцы атрад з 400 чалавек, у які ўваходзілі ў большасці сваёй сяляне, а таксама вучні, палясоўшчыкі, дробная шляхта. Абвяшчаючы ўсюды маніфест паўстанцаў, атрад рушыў у паход у бок Белавежскай пушчы, дзе Врублеўскі хацеў заснаваць сталую базу для будучых аперацый. Сутычкі з царскімі войскамі пад Валіламі і Каматоўшчынай з поспехам былі выйграны Врублеўскім.

8 чэрвеня каля Сцеражы атрад атрымаў больш буйную перамогу, якую вырашыла смелая атака сялян.

У пушчы атрад прабыў да верасня, за гэты час павялічыў свае сілы да 1000 чалавек і стаў весці партызанскую барацьбу ў раёне паміж Нёманам і Бугам. Перамога была вернай спадарожніцай атрада. Камандуючыя царскіх войск заўсёды баяліся маладога палкоўніка, якому дапамагаў народ.

Але гераізм і стойкасць паўстанцаў не маглі адолець пераважаючых сіл ворага. Пад націскам войск праціўніка, Врублеўскі ў канцы снежня перайшоў на другі бок Буга. 14 студзеня 1864 года атрад, які ўжо з восені застаўся адзінокім, даў свой апошні бой. У гэтым баі Валеры Врублеўскі быў сур'ёзна ранены. «Атрад перастаў існаваць, — піша ў заключэнне В. Сулеўскі, — але пасля яго застаўся трывалы след у гісторыі братэрства народаў Польшчы і Беларусі».

«Цяжка паранены Врублеўскі некалькі дзён поўз па снезе ў лесе, сяляне схавалі яго і пераправілі за граніцу», — так гаворыцца аб Валерыі Врублеўскім ужо ў другім творы — у аповесці Д. Граніна «Яраслаў Дамброўскі», у якой адлюстраваны падзеі, што адбываюцца праз восем год пасля падзей 1863 года, на барыкадах Парыжскай Комуны. Сяляне пераправілі Врублеўскага ў Галіцыю. Вылечыўшыся там, ён пераязджае ў Лондан, затым у Парыж, дзе наспявалі вялікія рэвалюцыйныя падзеі. Іх падрыхтоўцы Врублеўскі цалкам прысвячае сваю дзейнасць.

Як толькі выбухнула паўстанне 18 сакавіка 1871 года, Врублеўскі без ваганняў прапанаваў Парыжскай комуне свой ваенны вопыт, свае веды і здольнасці, сваё жыццё. Комуна даверыла Врублеўскаму адну з сваіх трох армій.

Аповесць Д. Граніна і пачынаецца нарадай у штабе камандуючага Другой арміяй Комуны генерала Врублеўскага.

У гістарычныя дні Парыжскай Комуны Врублеўскі паказаў сябе выдатным ваенным кіраўніком, выпрабаваным палкаводцам рэвалюцыі. Неўміручай славай пакрыла сябе Другая армія ў майскі тыдзень — апошні тыдзень барыкад. Салдаты Комуны пад камандаваннем Врублеўскага змагаліся за кожную плошчу, кожны дом, кожны ліхтар.

«З тысячай байцоў, — расказвае Д. Гранін, — Врублеўскі вытрымліваў націск трох дывізій. Нягледзячы на загад аб адступленні, ён працягваў трымацца. Версальцы сталі абыходзіць з поўдня. Тады ён прыняў рашэнне адыйсці на правы бераг Сены. Пад прыкрыццём батарэй Аустэрліцкага маста Врублеўскі ў поўным парадку перайшоў Сену, узяўшы з сабой усю артылерыю, каб весці бой на могілках Пер-Лашэз».

Пер-Лашэз — гэта ўжо было апошняе месца баёў, а атрад Врублеўскага быў апошняй арганізаванай групай комунараў, якая да канца аказвала супраціўленне версальцам. І нават у гэтыя жахлівыя гадзіны разгрому Врублеўскі — «адзін на чужыне, якога праследавалі ворагі і ненавідзелі суайчыннікі-эмігранты, які страціў сяброў на барыкадах Парыжа, ва ўбогіх лахманах, без грошай, не ведаючы за апошні месяц ні сну, ні адпачынку, Врублеўскі ўвасабляў сабой нязломную ўпартасць сапраўднага воіна рэвалюцыі». Так піша аб ім Д. Гранін.

Версальцам не ўдалося захапіць Врублеўскага ў свае рукі. Ён і на гэты раз знік ад ворагаў. У бяссільнай лютасці версальцы прыгаварылі яго да пакарання смерцю завочна.

Захаваліся дакументы, якія даюць некаторыя падставы думаць, што пасля разгрому Комуны Врублеўскі меркаваў прабрацца да сябе на радзіму, у Расію. Цяпер цяжка ўстанавіць, адкуль аб гэтым даведаліся царскія жандары, але ў архівах славутай царскай ахранкі — Трэцяга аддзялення — захаваўся загад начальнікам Варшаўскай, Бесарабскай, Падольскай, Валынскай і Ковенскай жандарскіх акруг аб тым, што «Валеры Врублеўскі — удзельнік і генерал Парыжскай Комуны — мае намер на працягу жніўня прыбыць у Швейцарыю, потым збіраецца адправіцца ў Галіцыю, а адтуль прабрацца ў нашы межы, у Валынскую губерню». Далей у загадзе гаворыцца аб неабходнасці «найстражэй назіраць за з'яўленнем Врублеўскага ў нашых межах і ў выпадку затрымання Врублеўскага тэлеграфаваць у Трэцяе аддзяленне і чакаць ад яго распараджэнняў». Гэты дакумент апублікаваны нядаўна ў Сухумі, у кнізе Ш. Басілая «Да пытання аб адносінах царскага ўрада да Парыжскай Комуны».

Ці то Врублеўскага паспелі папярэдзіць, ці то звесткі ў жандараў былі няправільнымі, але толькі ў межах Расіі Врублеўскі не з'яўляўся. Ён эміграваў у Лондан, дзе стаў адным з дзеячоў I Інтэрнацыянала, блізка пазнаёміўся з Марксам і Энгельсам, якія яго высока цанілі.

Апошнія гады свайго жыцця Врублеўскі правёў у Францыі, куды вярнуўся пасля амністыі комунараў у 1880 годзе. Змрочнымі былі гэтыя гады для Врублеўскага — адкрыліся раны, што прыносіла яму вялікія пакуты. Памёр Валеры Врублеўскі 5 жніўня 1908 года, яго пахаванне ў Парыжы вылілася ў грандыёзную дэманстрацыю, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі сацыялістычных партый Францыі, Расіі, Польшчы і Літвы.

Памяць аб выдатным правадыры беларускіх сялян, палкаводцу Парыжскай Комуны Валерыю Врублеўскім, па словах В. І. Леніна, будзе «непарыўна звязана з найвялікшым рухам пралетарыята ў XIX стагоддзі».

**А. МАЖЭЙКА.**

# З нашай пошты

## Крок у навуку

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя В. І. Леніна і ва ўсіх інстытутах Мінска створаны і працуюць студэнцкія навуковыя таварыствы. У 225 навуковых гуртках займаецца шэсць тысяч студэнтаў. У мінулым навучальным годзе на пасяджэннях гурткоў прачытана 1900 дакладаў па рознастайных пытаннях навукі і тэхнікі.**

**Лепшыя, найбольш значныя 553 студэнцкія даследаванні прадстаўлены ў аргкамітэт гарадскога агляду і яго секцыі. Як і ў мінулыя гады, сёлета найбольшая колькасць студэнцкіх работ паступіла ў секцыю фізіка-хімічных, матэматычных і тэхнічных навук.**

**Аргкамітэт адзначыў вялікую навуковую і практычную вартасць раду даследаванняў студэнтаў універсітэта, політэхнічнага і лесатэхнічнага інстытутаў.**

**186 студэнцкіх прац аднесены да першай катэгорыі. Гэта найбольш глыбокія даследаванні, якія маюць сур'ёзную навуковую і эксперыментальную частку, а таксама каштоўныя рацыяналізатарскія прапановы.**

**Увагу вучоных і практыкаў прыцягнула праца студэнтаў гідратэхнічнага факультэта політэхнічнага інстытута А. Мацулевіча і Ю. Зюзіна. Яны распрацавалі новую канструкцыю глыбіннай помпы для паніжэння ўзроўню грунтавых вод. Новая помпа зручная і можа працаваць без кампрэсара. Праца пачынаючых канструктараў у часе выпрабавання на заводзе атрымала станоўчую ацэнку. Студэнт гэтага-ж інстытута Э. Кулькоў зрабіў эксплуатацыйную дыяграму рэжымаў турбін з двума рэгулюючымі адборамі. Мінскія энергетыкі прымянілі гэтую дыяграму на турбіне «ВПТ-25». Дасканалая праверка паказала практычную каштоўнасць гэтай работы, і цяпер яе прымяняюць пры эксплуатацыі турбіны.**

**Некаторыя работы выкананы калектыўна. Так група студэнтаў у садружнасці з работнікамі шклозавода «Нёман» зрабіла сінтэз складу ізумруднага шкла і вывучыла яго тэхналагічныя і фізіка-хімічныя ўласцівасці. Некалькі студэнтаў лесатэхнічнага інстытута на аснове багатага эксперыментальнага матэрыялу і тэарэтычнага аналізу знайшлі рацыянальную ўмову выкарыстання рамных піл з плюшчанымі зуб'ямі. Гэтыя даследаванні маюць вялікае практычнае значэнне.**

**Вынікі трохгадовага даследавання абагулены ў працы студэнта універсітэта Б. Савіцкага. Ён вывучыў пытанні барацьбы са шкоднікам сельскагаспадарчых раслін падгрызаючай соўкай і прапанаваў эфектыўныя меры барацьбы з ёю.**

**Заслугоўваюць увагі даследаванні па літаратуразнаўству, моваэнаўству, гісторыі Беларусі, медыцыне, педагогіцы.**

**Пералік добрых студэнцкіх прац можна было-б прадоўжыць. У навуку ідзе новае, свежае падмацаванне.**

**Найбольш вартыя прапановы маладых даследчыкаў ужо ўкараняюцца ў вытворчасць. Іх працы рашэннем аргкамітэта рэкамендаваны да апублікавання ў навуковых часопісах і зборніках студэнцкіх навуковых работ.**

**С. ВЯРШЫНІН.**

## Пісьмы сяброў

**Вучні Залатушскай сярэдняй школы Васілевіцкага раёна наладзілі сталую перапіску з навучэнцамі IX ліцэя горада Гданьска. У сваіх пісьмах вучні расказалі польскім сябрам аб сваёй вучобе, аб працоўных поспехах нашай краіны.**

**Вялікая радасць была ў школе, калі ад польскіх сяброў было атрымана адразу 11 пісьмаў. У школе наладзілі калектыўнае чытанне гэтых пісьмаў. У сваіх пісьмах вучні Гданьскага ліцэя Ванда Душкевіч, Анна Білевіч і другія расказалі аб сваёй вучобе, аб вывучэнні рускай мовы і твораў рускіх пісьменнікаў у польскіх школах. Яны паведамілі аб адбудове роднага горада і аб бескарыслівай дапамозе савецкага народа польскім працоўным. Польскія сябры пішуць, што ў іх створаны камітэт дружбы польска-савецкай моладзі. У Залатушскай школе таксама створаны камітэт, які будзе садзейнічаць развіццю дружбы з вучнямі краін народнай дэмакратыі.**

**Г. ЗАЯЦ,**

**член камітэта дружбы польска-савецкай моладзі.**

## Паядынак з ваўчыцай

**Конюх калгаса імя Варашылава Канстанцін Івашкевіч гадзін у адзінаццаць вечара вяртаўся са стайні дахаты. Дарогі было не больш кілометра. Паабапал хвалявалася высокае і густое жыта. Ля вёскі Задвор'е з жыта на дарогу выскачыла ваўчыца. Канстанцін спыніўся ашаломлены. Стала, як укапаная, і ваўчыца. Вочы драпежніка гарэлі зялёнымі агеньчыкамі, а зубы аж ляскалі.**

**Пастаяўшы з момант, Канстанцін надумаў напалохаць ваўчыцу — ён крыкнуў на ўсю сілу. Аднак ваўчыца, замест таго, каб уцякаць, адным скокам кінулася на чалавека, відаць, намерыўшыся схапіць яго за горла. Канстанцін не разгубіўся: ён схапіў звера за вушы. Доўга важдаліся ў паядынку звер і чалавек. Нарэшце, ваўчыца ўсё-такі вырвалася і кінулася ў другі раз на калгасніка. Але і на гэты раз Канстанцін паспеў спрытна схапіць ваўчыцу за горла. Ён з усёй сілы сціснуў звярынае горла і пачаў клікаць на дапамогу. Непадалёк на трактары працаваў малады трактарыст. Ён пачуў крык чалавека і, схапіўшы кол, пабег на дапамогу. Калі ён падбег, ваўчыца, храпучы, асядала ўжо на зямлю. Трактарыст дабіў яе калом. Калгаснік Івашкевіч быў спалоханы, але непашкоджаны — толькі на руках у яго былі сляды воўчых зубоў.**

**На другі дзень труп ваўчыцы калгаснікі прынеслі ў вёску. Высветлілася, што некалькі дзён таму назад паляўнічыя знішчылі два вывадкі ваўчанят, і ваўчыца, відаць, хацела адпомсціць чалавеку за смерць дзяцёнышаў. Толькі адвага і знаходлівасць дапамаглі Канстанціну Івашкевічу ўзяць верх у паядынку з лютым драпежнікам.**

**Смалявіцкі раён**
**Мінскай вобласці.**

**У. КАЛТУН**

# ШАХМАТЫ

**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**А. СУЭЦІНА**

## „Адкрытыя" дэбюты

Мы пазнаёміліся ўжо з агульнымі прынцыпамі разыгрывання **дэбютаў,** г. зн. першай, пачатковай стадыяй развіцця шахматнай партыі.

Гістарычна склалася прынятая зараз сістэматызацыя ўсіх дэбютаў і падзел іх на тры вялікія групы: **адкрытыя, поўзакрытыя і закрытыя.** Трэба адзначыць, што да мінулага стагоддзя ў шахматных спаборніцтвах пераважна карысталіся **адкрытымі** дэбютамі, г. зн. пачаткам партыі, які атрымліваецца пасля ходаў 1. e2 — e4 e7 — e5. Гэта не выпадкова. Пазіцыі, якія ўзнікаюць ў «адкрытых» дэбютах, даюць надзвычайныя перспектывы для камбінацыйнай творчасці і вядуць да вострай і канкрэтнай ігры. Толькі наступная, вышэйшая ступень развіцця шахматаў накіравала шахматную думку на разыгрыванне іншых спосабаў дэбютаў: 1. d2 — d4, 1. c2 — c4 і г. д., што вядзе да больш складанай і менш фарсіраванай ігры.

Якія-ж прынцыпы характарызуюць «адкрытыя» дэбюты?

Перш за ўсё, у «адкрытых» дэбютах, як правіла, адбываецца ранняе ўскрыццё цэнтра. Гэта зусім правамерна, таму што падрыў цэнтральнай пешкі e5 (або e4), які робіцца другой цэнтральнай пешкай d4 (або d5) параўнаўча лёгка ажыццяўляецца. Палі-ж d4 і d5 абаронены **ферзем,** што і з'яўляецца прычынай ранняга ўскрыцця цэнтра. Хуткае ўскрыццё пазіцый вядзе да ранняга пачатку фігурнага «бою», які і вырашае зыход агульнай барацьбы. Каб мець поспех у гэтай фігурнай бойцы, трэба хутка і зручна **развіць** фігуры на найбольш моцныя і актыўныя **пазіцыі,** не трацячы тэмпу (часу). Гэта і ёсць асноўны прынцып разыгрывання «адкрытых» дэбютаў. Пры гэтым неабходна памятаць, што спачатку трэба ўводзіць **«лёгкія»** фігуры, г. зн. коней і сланоў. Ні ў якім разе не трэба спяшацца з ходамі ферзем і ладдзямі, якія значна каштоўнейшыя за лёгкія фігуры і ў пачатку партыі лёгка падвяргаюцца нападзенню менш цэнных фігур. Наадварот, караля трэба як мага хутчэй увесці з цэнтра, г. зн. хутчэй зрабіць **ракіроўку,** бо ў іншым выпадку кароль можа трапіць пад неадольную атаку. Нарэшце, не трэба імкнуцца да ўзяцця матэрыялу ў пачатку партыі. А пагоня за пешкамі праціўніка замест хуткага развіцця пазіцый нярэдка сустракаецца ў неспрактыкаваных ігракоў. Такая нездаровая хцівасць, як правіла, непазбежна караецца самой логікай шахматнай барацьбы. Вось тыя асноўныя парады, якія магчыма даць пачынаючаму шахматысту пры разыгрыванні «адкрытых» дэбютаў.

Праілюструем вышэйсказанае. Прыводзім наступны яркі прыклад з партыі І. Балеслаўскага — А. Ліліенталя, сыгранай у 1941 годзе.

Дэбют каралеўскага каня.

1. e4 e5, 2. Kf3 d5, 3. К : e5 Фe7? (Гэтае ранняе развіццё ферзя вельмі нязручнае. Правільна 3. ... Cd6, 4. d4 de з прыкладна роўнымі шансамі.) 4. d4 f6, 5. Kd3! (Конь пераводзіцца на моцнае поле f4.) 5. ... de, 6. Kf4 Фf7? (Яшчэ страта часу. Лепш 6. ... f5 і далей Kf6.) 7. Kd2 Cf5, 8. g4! (Пачынаюцца рашучыя дзеянні.) 8. ... Cg6, 9. C[illegible] Фd7, 10. Фe2! (Белыя адмаўляюцца ад выйгрышу пешкі 10. К : g6 hg, 11. К : e4, імкнучыся да хутчэйшай мабілізацыі фігур для атакі. Павучальны момант!) 10. ... Ф : d4, 11. Ke6 Фb6, 12. К : e4 Kbd7, 13. Cf4 (Паслядоўна ўводзячы ў бой фігуры, белыя атрымліваюць неадольную атаку.) 13. ... Ke5, 14. 0—0—0!



Белыя поўнасцю закончылі мабілізацыю, у той час як чорныя яе не пачыналі. Барацьба заканчваецца ў некалькі ходаў: 14. ... Cf7, 15. K4g5! fg, 16. С : e5 С : e6, 17. С : c7! — заключны эфектны камбінацыйны ўдар, які падрыхтаваны ўсёй папярэдняй пазіцыйнай ігрой белых. Чорныя здаліся, бо яны фарсіравана, каб пазбегнуць мата, трацяць ферзя.

На першай старонцы вокладкі: **Малатабоец Мінскага станкабудаўнічага завода імя Варашылава камсамолец Уладзімір Шэршань закончыў у гэтым годзе вячэрнюю школу з залатым медалем. Цяпер ён — студэнт фізіка-матэматычнага факультэта БДУ.**

На апошняй старонцы вокладкі: **Возера Літвінка, апетае вялікім польскім паэтам Адамам Міцкевічам.**

Фото А. Дзітлава.

**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).**

**«Молодость»**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.**
**На белорусском языке.**

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара—93-648, намесніка рэдактара—93-592, адказн. сакратара—93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі—93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі—93-985, аддз. ілюстрацый—93-892, аддзел пісем—93-854.

Рукапісы, прысланыя ў рэдакцыю, не звяртаюцца.

Здадзена ў набор 10.VIII.55 г. Падпісана да друку 30.VIII.55 г.
Фармат паперы $70 \times 108\,^{1}/_{8}$. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.

Тыраж 20.000 экз. Цана 2 руб.

АТ 06238. Зак. 534.

**Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**

**Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.**

